ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXII, № 181 Нью Ёрк Май — Травень 1972 New York Vol. XXII, № 181



**Урачыстасьць падняцьця беларускага сьцягу на ўгодкі Акту 25 Сакавіка перад гарадзкой ратушай бурмістрам Нью Брансьвіку сп-няй Патрышай Шыен (гл. рэпартаж на 4-ай бач. „Сакавіковыя ўгодкі ў Нью Брансьвіку")**

## "САВЕЦКІ НАРОД" — НАЙНАВЕЙШАЯ ФОРМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГЭНАСЫДУ

Прыбліжаючыся да 50-ых угодкаў стварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў, што спаўняюцца 30 сьнежня сёлета, ды разгортаючы ў сувязі з гэтым шалёную прапагандовую шуміху пра дасягненьні й дабрадзействы г. зв. ленінскае нацыянальнае палітыкі, Камуністычная Партыя афіцыйна абвесьціла, што працэс фармаваньня з усіх падсавецкіх народаў і народнасьцяў адзінага „савецкага народу" ўжо закончаны. У пастанове ЦК КПСС „Аб падрыхтоўцы да 50-годзьдзя ўтварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік", апублікаванай у лютым сёлета, чытаем: **„За гады будаўніцтва сацыялізму і камунізму ў СССР узьнікла новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ".**

Далей у пастанове ЦК КПСС высьвятляецца, што гэты „савецкі народ" **„сфармаваўся на базе грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці, адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцьця, марксыцка-ленінскай ідэялёгіі, інтарэсаў і камуністычных ідэялаў работніцкай клясы".** Пастанова цьвердзіць, што ўсе гэтыя прыкметы й асаблівасьці, што вырозьніваюць „савецкі народ" як новую гістарычную агульнасьць", **„вызначаюцца прыродай нашага ладу, выступаюць як аб'ектыўная заканамернасьць разьвіцьця сацыялізму".**

Узапраўднасьці-ж усе гэтыя прыкметы й асаблівасьці „савецкага народу" або згары накінутыя сілаю прымусу й тэрору, як „грамадзкая ўласнасьць на сродкі вытворчасьці" ды „адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцьця", або зьяўляюцца чыстай фікцыяй, як гэная „марксыцка-ленінская ідэялёгія" ці „інтарэсы і камуністычныя ідэялы работніцкае клясы".

Разгледзім коратка кажную з гэных прыкметаў і асаблівасьцяў „савецкага народу" паасобку:

**„Грамадзкая ўласнасьць на сродкі вытворчасьці"** — на практыцы ў сыстэме савецкага сацыялізму сталася дзяржаўнай уласнасьцяй на сродкі вытворчасьці, а буржуазны капіталізм быў заменены дзяржаўным капіталізмам зь яшчэ горшай эксплятатацыяй працоўных. Гэты дзяржаўны капіталізм, аблудна названы сацыялізмам, быў заведзены сілаю дзяржаўнага прымусу. Найлепшым гэтага прыкладам можа служыць прымусовая калектывізацыя зь ейным раскулачваньнем і масавымі высылкамі, паводля камуністычнай тэорыі, як форма гэнае грамадзкае ўласнасьці на сродкі вытворчасьці ў галіне сельскае гаспадаркі.

**„Адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцьця"** — таксама накінутае падсавецкім народам прымусова супраць іхнае волі й жаданьня. Усе гэтыя галіны жыцьця строга сцэнтралізаваныя й гэтак-жа строга рэглямантаваныя маскоўскім цэнтрам — Цэнтральным Камітэтам КПСС церазь ягоныя акупацыйныя органы — ЦК Камуністычных партыяў саюзных рэспублікаў. Падсавецкія народы ня маюць у гэтым „адзінстве" абсалютна ніякага голасу. Больш таго, навет адкрыта выказванае нездавальненьне й найменшы супраціў гэтаму сцэнтралізаванаму адзінству разглядаюцца, як контррэвалюцыйная дзейнасьць, і караюцца ўсёй строгасьцяй дзяржаўнага закону.

**„Марксіцка-ленінская ідэялёгія, інтарэсы і камуністычныя ідэялы работніцкай клясы"** — гэта ідэялёгія й ідэялы партыі, дакладней ейнага ЦК або аднаасабовага дыктатара, як за Сталінам, а не падсавецкіх народаў. Узьведзеная на вышыню партыйнае догмы аксіёма, што партыя й народ — гэта адно, гэта найбольшая фікцыя з усіх камуністычных фікцыяў. У аднапартыйнай таталітарнай савецкай сыстэме можа існаваць толькі адна палітычная партыя — Камуністычная партыя, і толькі адна ідэялёгія — марксыцка-ленінская. Найменшае адхіленьне ад гэтае ідэялёгіі разглядаецца як злачынная нутраная або вонкавая дывэрсія і, як гэткая, таксама караецца дзяржаўным законам.

Гэткім парадкам гістарычная заканамернасьць і жыцьцёвая ўстойлівасьць усіх згаданых атрыбутаў „савецкага народу" адно вонкавая і падтрымліваная сілаю дзяржаўнага прымусу. Палажэньне й абставіны жыцьця нерасейскіх народаў у Савецкім Саюзе цалком можна прыраўняць да вязьняў гітлераўскіх лягераў сьмерці, дзе чалавек ня толькі быў пазбаўлены свабоды, але або фізычна зьнішчаўся, або выкарыстоўваўся як аб'ект навуковых экспэрымэнтаў, што ў выніку раўнялася фізычнаму зьнішчэньню.

Паводля партыйнае дактрыны, сфармаваньне „новай гістарычнай агульнасьці людзей — савецкага народу" было вынікам г. зв. ленінскае нацыянальнае палітыкі партыі, ідэі інтэрнацыяналізму й дружбы народаў, узаемнага збліжэньня і ўзаемнага ўзбагачаньня іхных культураў. У запраўднасьці-ж, гэтае збліжэньне і ўзаемнае ўзбагачаньне нацыянальных культураў аднабаковае й палягае на прымусовым прышчэпліваньні расейскай нацыянальнай культуры нерасейскім народам, а ідэя інтэрнацыяналізму й дружбы народаў зьведзеная да афіцыйнага вызнаньня выключнае ролі й вышэйшасьці расейскага народу, як „старэйшага брата". Не дарма сталіся афіцыйнымі ўжо тэрмінамі гэткія абазначаньні, як „вялікі рускі народ", „вялікая руская культура", „вялікая руская мова". Гэная „новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ" плянава й пасьлядоўна творыцца на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскае гісторыі, расейскай культуры, расейскае мовы, расейскага патрыятызму й навет расейскага мэсіянізму, пад якім хаваецца ненажэрны спрадвечны расейскі імпэрыялізм. Фармаваньне „савецкага народу" практычна ня што іншае, як новая й найбольш мадэрная форма нацыянальнага генасыду.

Сяньняшняя камуністычная дактрына яшчэ прызнае, што факт узьнікненьня „савецкага народу" не пярэчыць далейшаму існаваньню паасобных нацыянальных агульнасьцяў—народаў у дасюлешнім клясычным разуменьні. Камуністычны тэарэтык Э. Баграмаў у сваім артыкуле ў „Праўдзе" за 16 ліпеня летась выразіўся літаральна, што **„савецкі народ — адначасна адзін і шматнацыянальны".** Ён пісаў далей: **„Наяўнасьць савецкае інтэрнацыянальнае супольнасьці народаў ня супярэчыць існаваньню й разьвіцьцю савецкіх нацыянальных супольнасьцяў".** Падобна і ў пастанове ЦК КПСС сказана, што **„сацыялістычная дэмакратыя гарантуе народам роўныя правы і магчымасьці, стварае ўмовы для вырашэньня нацыянальных праблемаў з улікам карэнных інтарэсаў працоўных розных нацыянальнасьцяў".**

У запраўднасьці-ж як паказвае савецкая практыка, гэта толькі прапагандавае пустаслоўе! Згаданая „савецкая дэмакратыя" — ня што іншае, як дэспатычная воля Масквы, якая й рэгулюе гэны „ўлік карэнных інтарэсаў працоўных розных нацыянальнасьцяў". А ўся існасьць гэнага ўліку — русыфікатарская. З кажным годам расьце на Беларусі русыфікацыя ўва ўсіх галінах грамадзкага й культурнага жыцьця. У вадпаведнасьці з гэтым з кажным годам звужаецца й абмяжоўваецца нацыянальная сфэра жыцьця беларускага народу.

Перад кажным з нас вынырае сяньня трывожнае пытаньне: ці расейскім шавіністым, што прынялі на сябе хвалыпывую ролю сацыялістычных дэмакратаў і камуністычных інтэрнацыяналістых, усё-ж удасца пры дапамозе гэнае новае формы нацыянальнага генасыду — „савецкага народу" растапіць „у вадзіным рускім моры" нерасейскія народы, у тым ліку й народ беларускі? Думаць гэтак няма асноваў! Усякае супрацьпрыроднае прымусовае дзеяньне выклікае адпаведнае супрацьдзеяньне. Гэткі ўжо няўхільны закон гістарычнага разьвіцьця. Савецкай палітыцы нацыянальнага генасыду ўсьцяж супрацьдзеіць ня менш моцны нацыянальны супраціў беларускага народу.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі на сваім 4-ым пленуме 14-15 сьнежня 1971 году ў Менску, абмяркоўваючы плян ідэйна-палітычнай дзейнасьці ў 9-ай пяцігодцы, быў вымушаны сказаць наступнае: **„Асаблівай увагі ў гэтым пляне заслугоўваюць пытаньні барацьбы супраць рэцыдываў нацыяналізму і нацыяналістычных поглядаў".** Пасьля цэлага паўстагодзьдзя бязьлітаснага змаганьня зь беларускім нацыяналізмам і стараннага выкарэньваньня яго ўсякімі спосабамі дзяржаўнага прымусу, фізычнага й маральнага тэрору, бесьперапыннага насаджваньня русыфікацыі, шалёнае прапаганды ды ўзгадоўваньня й пераўзгадоўваньня беларускага народу ў духу інтэрнацыяналізму й бязьмежнай любасьці да „вялікага рускага народу", беларускі нацыяналізм аказаўся ўсё-ж гэткім моцным і небясьпечным, што спатрэбілася афіцыйнага закліку ЦК КПБ да змаганьня зь ім і сяньня. У гэтым зарука нашага ператрываньня найгоршага ў нашай гісторыі ліхалецьця й зарука канчатковае перамогі!

**Дзівасіл**

## ВЫСТАЎКА ІРЭНЫ РАГАЛЕВІЧ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва наладзіў у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью Ёрку выстаўку малюнкаў і рысункаў маладой беларускай мастачкі Ірэны Рагалевіч. Выстаўка была адчыненая 30 красавіка сёлета.

Таленавітая мастачка вышэйшую мастацкую асьвету атрымала ў Акадэміі мастацтваў у Ёрку, Пэнсыльвэнія. Сп-чня І. Рагалевіч займае адказнае становішча мастацкага дырэктара ў ваднэй з агенцыяў камэрцыйнае рэклямы. Вольны ад абавязкаў час аддае мастацкай творчай дзейнасьці ў галіне і малюнку, і рысунку.

Для паказу на выстаўцы мастачка дала 54 творы з розных гадоў і розных галінаў творчае працы. Пераважаюць алейныя кампазыцыі але, апрача іх, ёсьць і працы, выкананыя акварэляй, тэмпэрай, пастэляй, крэйдай, алоўкам. З боку жанру матарыял на выстаўцы вельмі разнастайны: краявіды, бытавыя сцэны гораду й вёскі, натурморты, партрэты.

Асноўны настрой творчасьці бадзёры, малады, жыцьцярадасны, з акцэнтам на сьветлай, а ціраз і яскравай мажорнай ноце. Аб тым, як успрынялі прысутныя выстаўку, сьветчыць тое, што ўжо ў дзень адчыненьня яе вялікі лік малюнкаў быў закуплены. Выстаўка патрывае да канца травеня, адчыненая ў нядзелі ад 12-ай да 2-ой гадзіны папаўдні.

## ТАЛЕРАВАЦЬ ГЭТАГА НЕЛЬГА!

Выйшла ў Тароньце напрыканцы леташняга году кніга п. заг. „20 ГОД. ЗГУРТАВАНЬНЕ ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ АНТЭРЫЯ". Парасткі Згуртаваньня — ЗЭПА, пачалі прарастаць яшчэ рана ў 1952 г. Як ведама, у Канадзе шмат розналоўнай (апроч англа- й французка-моўнай) прэсы. Бальшыня яе сканцэнтраваная ў Тароньце. Раньнія тэндэнцыі, каб гэтых „этнікаў" павязаць, неяк згуртаваць, выявіліся з двух бакоў: мясцовых і агульнанацыянальных палітычных партыяў, каторым трэба былі галасы пры выбарах, ды звычайнага надзённага хлеба прэсы, — гандлёвай рэклямы. Ня нашай мэтай апісваць, колькі скарысталі з ЗЭПА палітычныя партыі ці як сытным аказаўся рэклямны „хлеб".

У кнізе прысьвечаныя невялікія разьдзелы кажнай этнічнай групе. Даецца кароткая характарыстыка гісторыі краіны, адкуль дадзеная група паходзіць, ды пасьля характарызуецца яе прэса ў правінцыі Антэрыё. І вось у разьдзеле п. заг. „Беларусы" чытаем наступнае: „Хаця стагодзьдзямі былі яны (Беларусы) пад чужой дамінацыяй, змаглі стварыць і вызначыць асобную культуру. У бальшыні яны праваслаўныя, хаця паважная мяншыня належыць да уніяцкай або грэка-каталіцкай царквы".

Каталікоў, згодна аўтараў, было ня было, мо языком кот зьлізаў...

І далей: „Беларусь калісь належала да Кіеўскай дзяржавы.., але з палітычнымі падзеламі прыйшла чужая акупацыя. Пасьля зьнішчальных наездаў Татараў, Беларусь была пераможана Літоўцамі. Яна складала часьць Польска-Літоўскай Рэчыпаспалітай аж да падзелаў апошняй... 25-га Сакавіка 1918 г. была абвешчаная незалежная беларуская дзяржава..."

Чулі, Паважаныя Суродзічы, як добра нам паводзілася? Спачатку апекавалася намі Кіеўская дзяржава, пасьля перамаглі нас Літоўцы й далей сядзелі мы, як у Бога за печай пад апекай мамы Польска-Літоўскай Рэчыпаспалітай... Рыма-каталікоў у нас на завод ня было...

Гэткія „адкрыцьці" зрабілі паны студэнты, якія апрацавалі разьдзел: Янэк Федоровіч, Марэк Бродзкі і Рычард Рогацкі. Нам давялося зьвярнуцца за выясьненьнямі да цяперашняга старшыні ЗЭПА сп-ра Маўко (Славэнца). Аказваецца, што за ўрадавыя грошы, управа ЗЭПА заангажавала мясцовых студэнтаў, якія мусіць мелі пэўныя прэтэнсіі да веданьня гісторыі. Яны-ж, із свайго боку, паставілі ўмову, што іхнай пісаніны ўправа папраўляць ці перайначваць ня мае права. Значыцца панкі Федаровіч, Бродзкі й Рагоцкі ўзброіліся ў права вэта й пачалі выдумляць. Сп. Маўко запэўніў нас, што карысталіся яны ўсімі даступнымі крыніцамі. Гэта, відаць, звычайная няпраўда, бо ў крыніцах беларускіх матар'ялаў пададзена адна невялічкая праца пра Беларусаў у Канадзе праф. Кэя. Студэнты, пэўне-ж, не заглянулі ў „Энцыкляпэдыя Канад'яна", дзе пра Беларусь некалі нядрэнна напісаў сп. М. Сільвановіч. Тэндэнцыйнасьць-жа панкоў студэнтаў, пэўне-ж, не бязь інструкцыяў старэйшых „родакув", бы шыла зь мяшка, вылазіць у справе беларускіх рыма-каталікоў. Яны, мусіць, трымаліся таго шавіністычнага пагляду, што „кажны каталік ёсьць Палякам". Вось і выйшла.

Гэтта ці выпадае варажыць, што ў кампаніі такіх „гісторыкаў' мусіць як удома чуецца галоўны мясцовы „прэсавы" пэрсанаж — Зіняк-Хмара, каторы вось ужо больш чым адно дзесяцігодзьдзе клюе ў гэнай супалцы ЗЭПА рэклямныя даляры... Гэтта, дарэчы, варта выясьніць, чаму чалавек гэты, малапісьменны ў беларускай мове й аж да сораму прымітыўны ў газэтнай пісаніне, так часта рэклямуе сябе й свае „хмаранкі" ў ліку розных вялікіх і малых палітычных сьвётлаў на першай бачыне газэты на здымках. Канфэрэнцыі й іншыя цырымоніі ЗЭПА наведваюць антарыйскія й фэдэральныя палітыкі. Глядзіш, Сірожа свайго носа тыц! ну й глядзіце, паважаныя чытачы, зь якімі вялікімі людзьмі я бакі абціраю... Эгэ... Яно-ж сабе з боку даволі ёмка выглядае. Лідар некалькіх мітычных партыяў і розных баявых згуртаваньняў вунь як нас, сьціплых і ім-жа затуканых-загуканых пераплюнуў.

Ды ў вышэй згаданай кнізе плявок Сярожаў ці не на самога аўтара трапіў. Бо вось, людцы добрыя, паслухайце, як адбывалася нараджэньне і ўзбуйненьне ўсяго беларускага ў Канадзе. Цытуем: „Беларускі Голас" ёсьць афіцыяльным органам Фэдэрацыі Беларускіх Вольных Журналістых. Ён аснованы ў 1949 годзе Беларускім Выдавецкім Фондам". Зручна, не? „Беларускі Голас" не паўстаў у 1952 годзе, а Зіняк-Хмара не арганізаваў у Нямеччыне ў 1949 нейкай там баявой супалкі беларускіх эвангелістых, каб пасьля зьвярнуцца да ўкраінскіх суботнікаў, каб тыя далі змогу яшчэ тром „веруючым" у Канаду пераз акіян пераплысьці. Але-ж зноў паслухаем Сірожы: „Спачатку ён („Беларускі Голас") называўся „Беларускі Эмігрант", але ў 1952 г. перайменаваўся на „Беларускі Голас". Чуеце, як хлёстка? „Арыгінальнымі закладчыкамі газэты ёсьць сп. М. Зіняк, каторы ёсьць выдаўцом і рэдактарам беларускай газэты ў Нямеччыне". А гэта што за цымус? Ці гэтта Сірожа пераблытаў, ці панове Федаровіч, Броцкі й Рогацкі памаглі?

Ну, што-ж? Крой, Сірожа, там няхай разьбіраюць, як хочуць. Табе-ж усё можна. Мы гэтта ня лічым патрэбным падаваць усім зацікаўленым і сумленным суродзічам тых фактаў нашага арганізацыйна-прэсавага жыцьця ў Канадзе, каторых ня выклююць зь бібліятэк і архіваў ніякія сірожы, уябуйнеўшыя на рэклямных далярах. Паважныя людзі, каторыя захочуць ведаць, даведаюцца, а тыя, што вялікім аўтарытэтам уважаюць Сірожаву памыйніцу, пэўне-ж не дарастуць. Поза малапісьменнага гарлапана адпавядае характару памыйніцы. І вось у рэпартажы з банкету гэты прыстасаванец не карыстаўся сваім беларускім словам, але — прабачце за выражэньне — узбагаціў свой жаргон аж трымя варыянтамі чужога слова: асассацыя, ассасацыя, асса-ассацыя... Мяркуй, чытач, сам...

Некаторыя зь Беларусаў думаюць, што лепш ігнараваць Зіняка-Хмару. Гэтым, відаць, і тлумачыцца факт, што нашы газэты й часапісы не бяруць яго на ўвагу. Але-ж ці мэтазгодна гэта? Бачыце, як цяперака вось, напэцкаў у супалцы з панкамі студэнтамі сярод чужых... І што будзе, калі нехта возьме гэтыя брэдні за паважнае? У кажнай добрай гаспадарцы ёсьць свая памыйніца. Гэтак і ў прэсавым сьвеце. Зірнеце навокал. І не бяда ў тым, што ёсьць і ў Беларусаў на эміграцыі свая — прабачце за выражэньне — газэта памыйніца. Трэба, здаецца, уважаць, каб пошасьць, каторая там кішыць-нуртуе, ня хлёпала пераз берагі. Значыцца, трэба прымаць меры карангыну...

**К. Акула**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,

Subscription $ 6.00 yearly.
**„БЕЛАРУС”** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
**Выдае:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# УЛАДЫСЛАЎ ГАЛУБОК

## НА 90-ЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Й 35-ЫЯ ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ Ў САВЕЦКАЙ ВЫСЫЛЦЫ

16 травеня сёлета спаўняюцца 90-ыя ўгодкі ад нараджэньня ў 1882 годзе й 35 год ад сьмерці ў 1937 годзе ў савецкай высылцы выдатнага беларускага тэатральнага дзеяча й драматурга Уладыслава Галубка.

Роля Ўладыслава Галубка ў разьвіцьці беларускага тэатральнага мастацтва й ягонай папулярызацыі сярод вясковага жыхарства Беларусі — унікальная й непаўторная. Некаторае прыраўнаньне да яго можа мець адно дзейнасьць ягонага слаўнага папярэдніка — заснавальніка беларускага тэатральнага руху нашаніўца Ігната Буйніцкага. Больш ніхто ў гісторыі беларускай культуры, навет у малой ступені, ня можа быць супастаўлены з Уладыславам Галубком.

Сваю культурна-нацыянальную дзейнасьць распачаў Галубок, як пісьменьнік, надрукаваўшы ў „Нашай Ніве” яшчэ ў 1906 годзе першае сваё апавяданьне „На вясельле”. Пасьля гэтага, друкаваў ён свае вершы й апавяданьні ў тэй-жа „Нашай Ніве”, „Маладой Беларусі” ды ў іншых друкаваных органах, а пазьней — у 1913 годзе выдаў свой першы й адзіны зборнік „Апавяданьні”.

Найшырэй, аднак, разгарнуў Галубок сваю дзейнасьць, як тэатральны працаўнік і драматург. Калі ў 1917 годзе заснавалася ў Менску „Першае Таварыства беларускай драмы й камэдыі”, актыўны ўдзел прыняў у ягонай дзейнасьці й Галубок, паставіўшы на ягонай сцэне ў тым-жа 1917 годзе першую сваю камэдыю „Пісаравы імяніны”. У жніўні 1920 году заснавалася „Трупа беларускіх артыстых пад загадам Галубка”, што ў 1924 годзе атрымала афіцыйны назоў „Другой беларускай дзяржаўнай трупы”, а ў 1932 годзе была рэарганізаваная ў „Трэйці Беларускі дзяржаўны тэатр” з базай у Гомелі, хоць тэатр гэты ўвесь час меў характар вандроўнага. Два гады перад гэтым, беларускае грамадзтва шырока адзначыла ў 1930 годзе 10-гадовы юбілей тэатру Галубка, а ўрад БССР, у якім народным камісарам асьветы быў тады заслужаны беларускі культурны дзеяч прафэсар Усевалад Ігнатоўскі, за выдатныя заслугі прысвоіў яму, першаму ў рэспубліцы, годнасьць народнага артыстага Беларусі.

У сваім тэатры быў Галубок і ягоным кіраўніком або дырэктарам, і рэжысэрам, і акторам, і музыкам, і мастаком, і аўтарам бальшыні паказаных у тэатры п’есаў. Галоўнае значаньне вандроўнага тэатру Галубка ў тым, што, калі сталыя беларускія тэатры абслугоўвалі горад, дык тэатр Галубка нёс беларускае тэатральнае й музычнае мастацтва ў вёску, у найбольш глухія й аддаленыя ад культурных цэнтраў сельскія мясцовасьці краю. Таму тэатр Галубка ня толькі пашыраў роднае тэатральнае мастацтва, але й будзіў нацыянальную сьведамасьць, прышчапляў любасьць і пашану да ўсяго свайго роднага. Навочны сьветка тэатральнай дзейнасьці Галубка Васіль Будзімер у мюнхэнскай беларускай газэце „Бацькаўшчына” прыгадаў у 1952 годзе наступнае:

„У 1925 годзе Галубок зрабіў вельмі карыснае першае турнэ па Гомельшчыне. Трэба адзначыць, што ў той час Гомельшчына яшчэ ўваходзіла ў склад РСФСР. Паказы адбыліся ў Гомелі ў вялікім клюбе чыгуначнікаў. Выступала трупа ў Нова-Беліцы, Рэчыцы, Хойніках, Чачэрску, Добрушы — цэнтры папяровай прамысловасьці. Трапіў Галубок і ў Бранск, наведаў Клінцы, Старадуб, Навазыбкаў. Ува ўсіх гэтых мясцох паказы ягоныя карысталіся нязьменным посьпехам, сымпатыяй і прыязьняй. Гэтае турнэ па Гомельшчыне мела потым вялізарнае значэньне, бо паказы Галубка былі моцнай прычынай правядзеньня гэтак званага „плебісцыту” аб далучэньні Гомельшчыны да Беларусі”.

Дзейнасьць Галубка, як драматурга, была выкліканая й абумоўленая галоўна практычнымі патрэбамі ягонага тэатру. У той час, як трупа Ігната Буйніцкага й пазьнейшыя самадзейныя трупы, із за нястачы беларускіх арыгінальных п’есаў, у бальшыні выпадкаў карысталіся перакладнымі п’есамі, Галубок імкнуўся даць беларускаму гледачу блізкую й нейлепш зразумелую яму арыгінальную беларускую п’есу зь ягонага жыцьця. За ўвесь час сваёй дзейнасьці Галубок напісаў і паставіў у сваім тэатры каля 50-ці п’есаў на гістарычныя, фальклёрныя, рэвалюцыйныя й найбольш на сацыяльна-бытавыя тэмы. Вось няпоўны пералік найлепшых ягоных п’есаў: „Пісаравы імяніны”, Бязьвінная кроў”, „Суд”, „Князь Качэргін”, „Іскра былога каханьня”, „Госьць з катаргі”, „Акрываўлены падатак”, „Дарагія госьці”, „Дваяжонцы”, „Завяўшыя кветкі”, „За мураванай сьцяной”, „Апошняе спатканьне”, „Ганка”, „Пан Сурынта”, „Падкідыш”, „Культурная цёшча”, „Васіль Хмель”, „Залёты дзяка”, „Жаніхі”, „Мужчынскае шчасьце”, „Душагубы”, „Праменчык шчасьця”, „Бязрадны”, „Плытагоны”, „Помста”, „Людзі” й іншыя.

Хваля масавых арыштаў, што пракацілася па Беларусі ў гады яжоўшчыны, не абмінула й Галубка. У 1936 годзе быў ён арыштаваны й апынуўся ў высылцы, дзе й памёр у 1937 годзе. Навет дзень і месяц ягонае сьмерці дагэтуль не ўстаноўленыя.

У 1957 годзе імя Ўладыслава Галубка было рэгабілітаванае і ў тым-жа самым годзе ў газэце „Літаратура і Мастацтва” было зьмешчанае наступнае паведамленьне: „Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук БССР пачаў зьбіраць архівы Трэйцяга беларускага дзяржаўнага тэатру і дзеяча беларускага мастацтва Ўладыслава Галубка”. А ў лютым 1958 году газэта „Літаратура і Мастацтва” паведамляла, што прэзыдыюм Саюзу пісьменьнікаў Беларусі „прыняў пастанову аб выданьні ў 1959 годзе зборніка твораў драматурга Ўладыслава Галубка”.

Але толькі праз дзесяць год пасьля гэтае пастановы выдавецтва „Беларусь” выдала ў 1968 годзе сьціпленькі зборнічак твораў Уладыслава Галубка, у які ўвайшлі ўсяго тры ягоныя п’есы: „Суд”, „Пісаравы імяніны” й „Ганка”. Аднак усе чыста Галубковы творы маюць сяньня вялікую літаратурна-гістарычную каштоўнасьць, і гэта як творы драматычныя, гэтак і ягоныя вершы й апавяданьні. Лепшыя зь ягоных драматычных твораў маглі-б з посьпехам папоўніць бедны йшчэ й сяньня арыгінальны беларускі тэатральны рэпэртуар калі не прафэсіяльных, дык прынамся народных і самадзейных тэатраў. Прыкладам, у межах фэстывалю 1967 году Цімкавіцкі тэатр мастацкай самадзейнасьці паставіў быў п’есу Галубка „Ганка”. Яна мела гэткі добры посьпех, што была вылучаная на абласны фэстываль у Менску, дзе была прынятая гледачамі зь вялікім энтузіязмам.

Сваю рэцэнзію ў „Полымі” на згаданы зборнічак Галубковых п’есаў тэатравед Антон Семяновіч закончыў гэткім пажаданьнем: „Ня будзем папракаць выдавецтва „Беларусь” за тое, што яно абмежавалася толькі трыма п’есамі драматурга зь яго вельмі багатай драматургічнай спадчыны. Праўда, большая частка п’ес Галубка ня друкавалася (надрукавана ўсяго ня больш дзесяці твораў), рукапісы іх або загінулі, або параськіданы дзесьці па архівах. Некаторыя-ж яго творы (і зь ліку надрукаваных) цяпер ужо ня гучаць, ня вытрымалі выпрабаваньня часам. Але, напрыклад, такія пяціактовыя драмы, як „Пан Сурынта” (была надрукавана асобным выданьнем у 1930 годзе), „Плытагоны” (рукапіс захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР) і некаторыя іншыя, на нашу думку, заслугоўваюць таго, каб іх выдаць і перавыдаць”.

Жабрацкая сьціпласьць пажаданьняў Антона Семяновіча, пэўне-ж, выкліканая абставінамі акупацыі. Калі-б гаспадарамі свайго жыцьця былі самі Беларусы, дык ужо даўно была-б выдадзеная й перавыдадзеная ўся літаратурная спадчына Уладыслава Галубка, якая, як згадвалася, мае вялікую гістарычна-літаратурную каштоўнасьць. А плённая дзейнасьць Уладыслава Галубка й ягонага тэатру для разьвіцьця роднае культуры была-б грунтоўна вывучаная й увекавечненая ў друку.

**Раман Шаруціч**

# БЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ПРОЗА 1971

Партыйны ціск на літаратуру й мастацтва ды іхнае дырэктыўнае накіроўваньне на выконваньне сацыяльных заказаў партыі, летась, у сувязі з дырэктывамі абодвых партыйных зьездаў — рэспубліканскага і ўсесаюзнага — яшчэ больш узмоцніліся, раўнуючы да папярэдніх гадоў. Не зважаючы, аднак, на гэта, беларуская мастацкая літаратура патрапіла ўсё-ж куды лепш і зь лепшымі вынікамі, чымся папярэднімі гадамі, абмінаць стаўляныя на ейнай дарозе перашкоды. Раўнуючы да трох ранейшых гадоў, калі, з прычыны гэнага партыйнага ціску, заўважаўся прыкметны спад літаратурнага разьвіцьця, летась ня менш выразнай была зьява адваротная. Зазначылася значнае ажыўленьне літаратурнага жыцьця, больш наважана й пасьлядоўна пачала літаратура адваёўваць свае мастацкія правы. Вынікі гэтае зьявы выявіліся як у колькасным росьце паўнацэнных літаратурных твораў, гэтак і ў павышэньні іхнае мастацкае якасьці ды пашырэньні жанравае размавітасьці й мастацкіх пошукаў.

Выдатным літаратурным дасягненьнем году стаўся надрукаваны ў першай ягонай палавіне ў трох нумарох часапісу „Полымя” новы раман **Алеся Асіпенкі** „Няпрыкаяны маладзік”. Раман цікавы асабліва тым, што пісьменьнік, вызваліўшыся ад партыйнага схэматызму й прапагандавага дыдактызму, патрапіў цьвяроза глянуць на сучасную савецкую рэчаіснасьць і аб’ектыўна выявіць хранічныя ейныя маральныя й грамадзкія хваробы— удушлівую атмасфэру хвальшу, кар’ерызму, падхалімства й прысмактасавальніцтва ў сяньняшнім савецкім жыцьці. Грамадзка-маральныя канфлікты між дабром і злом наагул частыя ў сучаснай беларускай літаратуры, што сталіся ў ёй ужо традыцыйнымі. Але раскрыцьцё гэнага грамадзкага зла й шкодных ягоных вынікаў ніразу ня мела гэткага шырокага паказу й войстрага асуджэньня, як у Асіпенкавым рамане. Проста несамавітае ўражаньне выклікае ў рамане тое, што перамагаюць у гэтых канфліктах звычайна гэныя носьбіты грамадзкага зла. Дабіўшыся нясумленнымі мэтадамі высокіх грамадзкіх і службовых становішчаў, яны цешацца поўным даверам на вярхох, куды сумленным, але ніжэй пастаўленым людзям няма й доступу. Гэтым апошнім, бясьсільным і бездапаможным, застаецца адно з двух: або крывіць душой і ўваходзіць у канфлікт із собскім сумленьнем, або быць абвінавачанымі ў няправільнай дзейнасьці й пазбаўленымі сваіх становішчаў. У зыркім рэалістычным паказе на цэлым радзе канкрэтных прыкладаў і адважным асуджэньні грамадзка-маральнага зла ў сяньняшняй рэчаіснасьці — галоўная каштоўнасьць Асіпенкавага раману „Няпрыкаяны маладзік”.

Найбольшыя дасягненьні выпалі летась на долю аповесьці. У часапісах „Полымя” й „Маладосьць” зьявілася летась роўна дваццаць аповесьцяў. З гледзішча жанравага й тэматычнага вылучаюцца сярод іх тры апрычоныя групы: аповесьці прысьвечаныя падзеям партызанскага змаганьня ў мінулай вайне, гістарычныя аповесьці пра падзеі нацыянальнай мінуўшчыны Беларусі, аповесьці пра сучаснасьць.

У ваповесьцях першае групы ўпяршыню ў беларускай літаратуры летась была войстра пастаўленая праблема грунтоўнага пераасэнсаваньня сяньняшняга лёзунгу ў дачыненьні да ўдзельнікаў партызанскага руху й іхных гераічных вычынаў — „ніхто не забыты, нішто не забыта”. Праблеме гэтай цалкам прысьвяціў сваю новую выдатную аповесьць „Абэліск” **Васіль Быкаў.** Дзеля ўвекавечаньня памяці шасьцёх вучняў школы, што трагічна загінулі ў змаганьні з ворагам, быў пастаўлены мэмарыяльны абэліск. Але сярод прозьвішчаў гэных шасьцёх вучняў даўгі час не магло знайсьціся месца на абэліску для прозьвішча іхнага настаўніка Алея Мароза, што сваім ідэйна-маральным узгадаваньнем натхніў іх на гераічны вычын і сам загінуў за гэта разам зь імі. Не магло зьявіцца на абэліску прозьвішча настаўніка затым, што, на думку партыйных дагматыкаў, ён не праявіў ніякага гераічнага ўчынку, навет не забіў ніводнага ворага, хоць сваім ідэйна-маральным узьдзеяньнем на вучняў і жыхароў вёскі, як сказана ў ваповесьці, „болей зрабіў, чым калі-б забіў сто”. Васіль Быкаў паставіў перад чытачом пытаньне, што ў вацэне партызанскага руху яшчэ „трэба шмат разабрацца”, і адказ на гэтае пытаньне пакінуў самому чытачу.

Падобная праблема і ў леташняй аповесьці **Барыса Сачанкі** „Загадка аднаго падпольля”. У ёй аўтар выступіў супраць таго, што вучнёўская група аднаго падпольля, усе ўдзельнікі якога загінулі геройскай сьмерцяй, афіцыйнымі дзейнікамі была сьвядома забытай толькі таму, што група гэтая дзеіла цалкам самастойна й адмовілася ня толькі падпарадкавацца, але й кантактавацца з падпольным райкомам партыі. Вуснамі галоўнага пэрсанажу аповесьці Янкі Грыба аўтар бароніць свой пагляд гэтак: „Галоўнае не як вялося змаганьне, а што яно вялося. І слава ня толькі тым, хто арганізоўваў барацьбу ў тыле ворага, хто па волі падпольных абкомаў і райкомаў ішоў на самыя небясьпечныя заданьні, але і слава тым, хто па заклiку свайго сэрца, кіруючыся адным — нянавісьцю да фашыстаў, не разгубіўся ў цяжкую хвіліну, стаў на абарону Бацькаўшчыны”.

Узноў-жа ў леташняй аповвесьці **Уладзімера Паўлава** „Нас поле не насеена” выведзены пэрсанаж паліцыянта Гены, што пайшоў у паліцыю па заданьні падпольля і, хоць таксама, як і настаўнік у ваповесьці Быкава, не забіў ніводнага ворага, але шмат каго із сваіх аднавяскоўцаў выратаваў ад сьмерці. Не зважаючы на гэта, па вайне, паводля тарнаванага тады прынцыпу: „служыў у паліцыі — паліцай! Будзь ласкавы — адказвай”, быў ён арыштаваны й высланы на Варкуту. Адначаснае завайстрэньне ўвагі аж трох аўтарытэтных пісьменьнікаў у кірунку пераасэнсаваньня прынцыпу „ніхто не забыты, нішто не забыта” прамаўляе за тым, што праблема гэтая цалкам насьпела й патрабуе свайго разьвязаньня.

Леташні літаратурны год паказаў, што ў мастацкім адлюстраваньні нацыянальнай мінуўшчыны беларускага народу **Уладзімер Караткеіч** ужо не адзінокі. Да яго летась далучыліся старэйшы пісьменьнік **Алесь Якімовіч** сваёй аповесьцяй „Кастусь Каліноўскі”, малодшы пісьменьнік і паэта **Алесь Наўроцкі** сваім апавяданьнем „Некалькі загадак”, што ахапленьнем гістарычных падзеяў розных эпохаў можа ўважацца аповесьцяй таксама, ды зусім маладая паэтка **Вольга Іпатава,** што з добрымі вынікамі пачала працаваць і ў галіне прозы, сваёй першай аповесьцяй „Прадыслава”. Ува ўсіх гэтых творах моцнае імкненьне правільна асэнсаваць гістарычную мінуўшчыну беларускага народу, ягоную волялюбнасьць і пачуцьцё нацыянальнай годнасьці. А Вольга Іпатава ў паказе духовага профілю выдатнай асьветніцы Беларусі XII стагодзьдзя Еўфрасіньні Полацкай і ў вадлюстраваньні гістарычнага каларыту эпохі дасягнула заправдных удачаў.

Каля палавіны леташніх аповесьцяў на тэму сучаснасьці: пра жыцьцё, духовыя пошукі й маральна-этычныя праблемы людзей пераважна вёскі, рэдчас гораду, найчасьцей сельскае інтэлігенцыі. З

**(Заканчэньне на 5-ай бачыне)**

**Уладыслаў Галубок**

# МАРЫМОНАВЫ САБАКІ

Хоць і цяжка жылося Марымону Сьвяжынскаму, але — ці то з дабраты сэрца, ці такі ўжо звычай меў, — прыплоду ад сваёй жывёлы ніколі не пазбываўся. Гаспадарка Сьвяжынскага ня надта крэпкая была: старая кабыла ды сука рудая. Але й з гэтай прыждаў Марымон прыбытку — васьмёра шчанятак. І, хоць раілі суседзі зьвесьці гэтых дармаедаў, той ані блізка! „Хай качаюцца”, — кажа. І праўда: падкачаліся брахуны, і — на што тое — добра таргавала матка, а дзеткі яшчэ лепш. Ані прайсьці, бывала, каля бабыля.

Вось, неяк пад восень, — бадай, баб’ім летам, — у сьвяточны дзень сядзеў наш Марымон на прызьбе і, пыкаючы люльку, грэў свой, як дулю, нос і ўглядаўся на дарогу. Ажно бача, плыве з пад суседняга двара панава цешча. Сунецца, прыкрываючыся чырвоным парасонам, сама тоўстая, як кадзь, спадніцы, як туга набітыя абручы, сядзяць на ёй. А капялюш, капялюш: — такога й з роду Марымон ня бачыў.

Ліха надало падкруціцца тут рудой сучцы з сваёй дружынай, і мусіць-то і ім гэты капялюш кальнуў у вочы, — быццам перакуленая ражка з пад іхняй яды. Калі ўлягуць за паняй, толькі пыл закурэў. І не агледзіўся Марымон, як парасон, каторым прабавала было бараніцца паня, паляцеў у шматочкі. А пакуль дабег бараніць, тая ўжо, завярнуўшы аглоблі, часала ўва ўсе лапаткі пад двор.

„Скуль толькі хада ў яе ўзялася? Мусіць то спусьцілі сабачкі абручы гэныя?” — думаў, чэшучы патыліцу, Марымон. А часаць патыліцу было чаго: як стой, прыпрэ пан — будзе каша: Яшчэ чаго добрага на месяцы два дармовыя харчы й кватэру ўлепіць!

Толькі гэта зьвечарэла, — так яно й ёсьць: коціць пан да Сьвяжынскага. А ў таго й блохі ўжо падохлі.

— Твае гэта сабакі далі пытлю маёй цешчы? — пытае, увайшоўшы ў хату, пан.

— Мае, паночку, мае, каб іх воўк так пытляваў! — адказвае, зьбедзіўшыся, Марымон. — Я іх у адседку ўжо пасадзіў.

— А ці ня можна было-б глянуць, якія там яны? — ізноў пытае пан.

— Чаму ня можна? — хоць зара! — кажа Марымон і, выйшаўшы ў сенцы, выпусьціў з загарадкі сабак на двор.

Доўга ўглядаўся пан праз акно, як завіхалася рудая сучка, абнюхівала чужы сьлед, як у прыскочку за ёй кідалася на ўсе бакі сямейка яе, а пасьля й кажа да Сьвяжынскага:

— Слухай, братка, прадай мне іх — добрыя грошы дам.

Глядзіць Марымон, высалупіўшы вочы: „Кпіць пан, ці якое ліха?” — думае сабе. А пан ізноў да яго:

— Ну, што тут доўга думаць? — суседзкая справа. Во табе за правадырку траячку, дый за гэтых тузганцоў па рубельчыку ад хваста. Хіба крыўды ня будзе. Сып малых у мех, ці ў кошых які, і валачы ў двор. Сука сама за імі паляціць.

„Кпіны, ці не? — думае зьдзіўлены Марымон, — але, калі добрыя грошы даюць, чаму ня браць?” І, згробшы іх у капшук, закінуў за плечы, і цягне за панам у двор. Але ў дарозе ня выгрываў Марымон:

— Паночку, — кажа, — выбачайце, што буду пытаць. Мае-ж сабакі ні да птушак складу ня маюць, ні яны ганчакі, дык на што-ж вам гэта воўчае мяса? Яшчэ ізноў напудзяць паню? І так мо зашкодзіла?

— Зашкодзіла? — не звальняючы кроку, перапыніў пан. — Памагло, Марымонка, памагло! Вярнуўшыся пасьля гэтай лазьні цешча й кажа да мяне: „Каб у двары былі гэтыя Марымонавыя зьверы — і аднаго дня ня ўседзела-б тут!”

**(Беларускі Каляндар „НАШАЕ НІВЫ” на 1912 год)**

# ПАХОВІНЫ ЗМАГАРА

25 красавіка сёлета неспадзявана памёр ад хваробы сэрца выдатны царкоўны й грамадзкі дзеяч а. д-р Віктар Войтанка-Васілеўскі. Айцец Віктар быў шырака ведамы ўва ўсёй Паўночнай Амэрыцы, паза межамі штатаў Нью Джэрзі й Нью Ёрк, у якіх служыў сьвятаром і працаваў лекарам. Таму ягоную страту адчула балюча ўсё беларускае грамадзтва. Ягоныя паховіны, што адбыліся ў сыботу 28 красавіка,ператварыліся ў маніфэстацыю беларускага грамадзтва, што сабралася з усіх куткоў Амэрыкі й Канады, каб аддаць апошнюю пашану свайму ўлюбленаму пастыру — дзеячу — лекару. Сярод больш як двух соцен прысутных былі людзі розных веравызнаньняў, розных нацыянальнасьцяў. Былі тут ягоныя вернікі, школьныя сябры, ягоныя супрацоўнікі, прыяцелі, суседзі, пацыенты — людзі, што тым ці іншым спосабам раней ці пазьней прыйшлі зь ім у сутык.

Жалобную Божую Службу ачоліў Галава БАПЦ Архіяпіскап Андрэй, які прыбыў сюды з Кліўленду, Огаё, у асысьце настаяцеля Парахвіі а. Васіля Кендыша, а. Міраслава Глінскага з Пасэйку, які прадстаўляў Украінскую Праваслаўную Царкву ў Амэрыцы, ды а. Карпа Стара зь Нью Ёрку. У сваім казаньні Уладыка Андрэй паказаў а. Віктара як заслужанага будаўніка БАПЦ, адданага ёй пастыра, актыўнага й вернага сына беларускага народу. Айцец Міраслаў, прамаўляючы паангельску, падчыркнуў высокія духовыя якасьці Нябожчыка як пастыра й лекара.

Пасьля адпяваньня й крэснага ходу навакол царквы сфармавалася доўгая жалобная працэсія падарозе на Беларускі Магільнік у Іст Бранcьвіку. Менш як тыдзень таму сьв. пам. а. Віктар яшчэ тут маліўся за іншых.

Пасьля кароткай літыі Галава БАПЦ Уладыка Андрэй разьвітаўся з пастырам БАПЦ, Заступнік Старшыні Рады БНР д-р Б. Рагуля разьвітаўся з Радным БНР, украінскі журналісты Пятро Ямняк разьвітаўся ад імя ўкраінскіх прыяцеляў Нябожчыка. Ген. д-р Я. Сажыч, Старшыня Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў, перадаў сыну Нябожчыка капітану Р. Войтанку беларускі сьцяг на памяць і ў прыклад пра Бацьку. Ганаровая варта пад камандай капт. С. Гутырчыка апускае сьцягі ў часе жалобнае песьні „Сьпі пад курганам герояў", праводзячы Змагара на вечны супачынак.

На памінальным абедзе настаяцель Парахвіі а. В. Кендыш, складаючы спачуваньні сям'і сьв. пам. а. Віктара, з жалем казаў аб страце свайго блізкага супрацоўніка, зь якім разам абслугоўвалі Парахвію. У эўлёгіі па Нябожчыку ад Парахвіяльнай Рады й Парахвіі сьв. пам. а. д-р Віктар Войтанка-Васілеўскі быў паказаны як чалавек непамернай энэргіі, вялікай фантазіі, хуткага дзеяньня. Як пастыр ён быў адданы БАПЦ, гатовы заўсёды памагаць патрабуючым і пакрыўджаным. Як лекар — заўсёды гатовы із сваёй тэчкаю пасьпяшацца да хворага. Як Беларус — бязьмежна любіў усё беларускае мінулае, змагаўся за лепшае беларускае будучае. Будучы чалавекам выдатным, быў адначасна простым і даступным.

Тое, што ён быў першым беларускім бурмістрам гораду Баранавіч, старшынём Беларускай Самапомачы, заснавальнікам Мэдычнай Школы ў Баранавічах, будаўніком Аўтакефаліі БАПЦ на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, што быў піянэрам увядзеньня беларускай мовы ў Божую Службу — робяць ягоныя заслугі гістарычнымі.

Вядучую ролю Нябожчыка ў жыцьці беларускай эміграцыі адзначыў інж. М. Гарошка, прамаўляючы ад імя Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку. Д-р В. Тумаш і мгр. М. Кунцэвіч успомнілі пра часы з акадэмічнага жыцьця ў Вільні й пра жывы ўдзел у гэтым жыцьці сьв. пам. а. Віктара. Сп. Ул. Русак прасіў тых, што жадаюць ушанаваць памяць Нябожчыка, каб зрабілі гэта, заміж кветак, злажэньнем ахвяры на Царкву ў Дэтройце. Сп-ня А. Курыла адзначыла заслугу Нябожчыка ў добрым беларускім узгадаваньні сваіх дзяцей і ўнукаў. Сп. Т. Супрун адзначыў ролю Нябожчыка ў жыцьці мясцовага Аддзелу БАЗА.

Сын сьв. пам. а. Віктара капітан Расьціслаў Войтанка запрапанаваў увазе прысутных найгранае на йстужцы казаньне ягонага памерлага бацькі, сказанае з нагоды сьмерці сьв. пам. Архіяпіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля. Казаньне, клясычнае зьместам і формай, будзе заўсёды гучэць наказам усім тым, што яго пачулі. Брат Нябожчыка сп. М. Войтанка й Матушка Марыя падзякавалі Уладыку Андрэю, духавенству і ўсім прысутным за памяць пра а. Віктара ды ўвагу да іх, а таксама Сястрыцтву Божай Маці Жыровіцкай за падрыхтаваньне памінак.

**Парахвіянін**

---

**З БОЖАЕ ВОЛІ**

25 красавіка 1972 году адыйшоў на вечны супачынак
Сьвятой Памяці Айцец Доктар

## ВІКТАР ВОЙТАНКА-ВАСІЛЕЎСКІ

аб чым зь вялікім сумам паведамляе
**ЯПАРХІЯЛЬНАЯ УПРАВА**
**Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**
і складае глыбокае спачуваньне Сям'і Нябожчыка
й Парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парк,
Нью Джэрзі.

---

Аб перадчасным адыходзе на вечны супачынак 25 красавіка 1972 г.
свайго Сьвятара Айца Д-ра

## ВІКТАРА ВОЙТАНКІ-ВАСІЛЕЎСКАГА

паведамляюць зь вялікім жалем Настаяцель а. Васіль Кендыш,
Парахвіяльная Рада й Парахвіяне Царквы БАПЦ Жыровіцкай
Божай Маці ў Гайленд Парк, Нью Джэрзі, і складаюць сваё
шчырае й глыбокае спачуваньне Матушцы-Маці, Матушцы Марыі,
дзецям Людміле й Расьціславу, брату Мікалаю, сястры Галіне
й іхным сем'ям.

---

# ПАМЯТНІК БЕЛАРУСКІМ ГЕРОЯМ

У сакавіку сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Нью Ёрку адбылося пашыранае паседжаньне, скліканае Задзіночаньнямі Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі й Нью Ёрку. На паседжаньне былі запрошаныя прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Паседжаньне пачалося ўшанаваньнем памяці Беларускіх Патрыётаў, што адыйшлі на вечны супачынак, ды толькішто памерлага сьв. пам. Юркі Харытончыка. Вылучнай тэмай паседжаньня была справа будовы памятніка Беларускім Героям на Беларускім Магільніку ў Іст Бранcьвік, Нью Джэрзі.

Управа ЗБАВ у Нью Джэрзі, як ініцыятар пабудовы памятніка, паінфармавала пра пляц, на якім мае будавацца памятнік, а скарбнік Фонду Будовы Памятніка паінфармаваў пра паступленьне ахвяраў на гэтую мэту. На дзень 12 сакавіка сёлета сума ахвяраў выносіла $ 1,256.00, апрача сабраных грошай на падпісныя лісты, разасланыя ў беларускія асяродкі Амэрыкі, Аўстраліі й Эўропы, якія яшчэ да гэнага часу ня былі зьвернутыя.

Далей было паінфармавана вэтэранамі зь Нью Джэрзі, што праект памятніка, які быў апублікаваны ў студзені ў часапісе „Змагар", ня быў прыняты з прычыны вялікага кошту. Таксама ня было апрабаванае й месца пад памятнік, выбранае вэтэранскай управай у Нью Джэрзі. На гэтым фоне разгарнулася на паседжаньні ажыўленая дыскусія. Падаваліся розныя прапановы: выгляд памятніка, ягоныя памеры, якасьць будаўлянага матарыялу ды адпаведнае месца пад памятнік. Ніводнай ня было прапановы, каб памятніка ня будаваць. Наадварот, агульнай думкай было: **быў-бы сорам Беларусам не пабудаваць Памятніка Беларускім Героям!** Было запрапанавана стварыць Камісію Праекту Памятніка, якая зараз-жа была пакліканая і ў хуткім часе распачне сваю працу.

Што датычыцца пляцу пад памятнік, дык абавязкава трэба паінфармаваць дакладна, каб не пашыраліся некаторыя непаразуменьні сярод тых, што прыймаюць удзел у будове памятніка.

Як ведама, Парахвія БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, набыла сваім часам вялікі кусок зямлі пад магільнік, на якім спачываюць толькі Беларусы. Магільнік вельмі прыгожы, яшчэ зусім новы й паступова далей упрыгожваецца. Магільнік ня ёсьць аб'ектам, што можна прадаць ці пераказаць прыватнай карпарацыі. Гаспадаром магільніку ўспоменая парахвія. Вось-жа Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі зьвярнулася да Парахвіяльнай Рады з просьбаю дазволу пабудаваць на магільніку памятнік Беларускім Героям. Справа цягнулася аж да сьнежня 1970 году. Былі розныя прычыны гэтага з вэтэранскага боку, бо рабіліся заходы атрымаць пляц пад памятнік у Гарадзкім Парку, але з гэтага нічога ня выйшла. На Агульным Сходзе парахвіянаў Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку 14 лютага 1971 году ЗБАВ у Нью Джэрзі зьвярнулася з просьбаю прызнаць месца пад памятнік у разьмеры 400 квадратных футаў на магільніку. Агульны Сход пайшоў напярэймы вэтэранам і іхную просьбу аднагалосна задаволіў.

Калі ўжо гутарка пра магільнік і памятнік, дык нельга ня ўспомніць пра тых, што тут пахаваныя: удзельнікі Слуцкага Паўстаньня, нацыянальныя дзеячы, кіраўнікі БАПЦарквы, настаўнікі, што ўзгадоўвалі беларускіх патрыётаў.

Памятнік Беларускім Героям будзе сымбалем нашае пашаны тым, што аддалі жыцьцё за незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны. Гэта будзе памятнік па ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё ў баёх, на шыбеніцах, у бальшавіцкіх лягерах сьмерці й што аддаюць сваё жыцьцё й да сяньняшняга дня ў змаганьні за вызваленьне. У будучыні перад памятнікам будуць адбывацца вэтэранскія й маладзежныя парады, малебены за супакой душаў Беларускіх Герояў. Памятнік будзе напамінаць нашай моладзі, што ўзгадавалася на чужыне й ня знае Беларусі, пра змаганьне за яе ейных бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Вось чаму вэтэраны стараюцца пабудаваць памятнік Беларускім Героям на Беларускім Магільніку ў Іст Бранcьвік. Дык памажэце нам фінансава ў гэтай справе!

**Сяргей Гутырчык**

---

### САВЕЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў ГАЛІВУДЗЕ

У сакавіку сёлета была наладжаная ў Галівудзе савецкая выстаўка, на якой было колькі экспанатаў і з БССР. Нажаль, нічога беларускага з экспанатаў ня было на продаж. Ня было Беларусаў і ў вабслуговым пэрсанале выстаўкі. Былі зарганізаваныя антысавецкія пікеты з плякатамі пры ўваходзе на выстаўку, а пад канец выстаўкі навет узарвалася й бомба. Сярод эмігрантаў выяўлялася зыркая разнаякасьць пагляда́ў што да выстаўкі: адныя жадалі паглядзець яе, а іншыя — байкатавалі выстаўку.

**Н.**

---

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"!**

---

# ЯК ЗЬНІКЛА РЭЧКА ЛУКАМКА?

Дык выбірай куток любы:
Браслаўе, Лукамля ці Нарач.
Стаяць над Сьвіцязьзю дубы
І пра цябе таксама марыць.

**Пятрусь Броўка**

Паміж нязьлічоных вазёраў Наддзьвіньня да ліку найбольшых належыць Лукамльскае, што працягнулася ўдоўжкі на 10, а ўшыркі на 7 кілямэтраў пры найбольшай сваёй глыбіні ў 11 з паловай мэтраў. З усходняга берагу тут ня відаць заходняга, каб не маляўнічае ўзгор'е Каторсы, якое йдзе адсюль аж да Лепялю. Ад возера яшчэ бадай надысь распачыналася прывабная рэчка Лукамка, што паблізу Чашнікаў уцякала ў раку Вулу. У сваёй верхняй плыні, прараза́ючыся праз узвышшша, Лукамка была вузкая й глыбокая, а ўжо ніжэй шырокая й плыткая. І пра возера й пра рэчку ў народзе існавала шмат паданьняў, а зь іх асабліва далося мне ў знакі адно, зь якім і дазвольце перадусім вас пазнаёміць.

Давялося мне чуць ад сваіх дзядоў, а тыя дазналіся ад іхніх, што некалі за даўнія часы на беразе Лукамльскага возера стаяў вялікі горад Лукамля, у якім панавалі князі Лукамскія. Па Дзьвіне, Вуле й Лукамцы праходзіў тады адзін з аб'ездных гандлёвых водных шляхоў з Варагаў у Грэкі, што спрыяла росквіту гораду. Але аднойчы, замест купцоў, пад муры Лукамлі зьявіўся разам з дружынай Вараскі князь Трувар, каб падпарадкаваць яе сабе. Не адзін тыдзень абараняліся ад заваёўнікаў лукамляне, пакуль ня зрадзіла ім іхняя княгіня, адчыніўшы ўночы браму супрацiўнікам. Тыя перабілі ўсіх воінаў разам з князем, але й самыя тут доўга не гаспадарылі.

Калі адлучыўшыся з дружынай у паход, Трувар зьвярнуўся да Лукамлі, дык не пабачыў яе — яна правалілася ў возера. Спалоханы князь уцёк, а рэштка ацалелых тутэйшых жыхароў заснавала паблізу ад зьніклае Лукамлі цяперашняе мястэчка Лукамлю. З таго часу на працягу стагодзьдзяў чулі бліжэйшыя ў Вялікодную ноч царкоўныя званы затопленага гораду і прыпушчалі таксама, што гэта менавіта ягоныя насельнікі выкідвалі ў галодныя гады рыбу з возера на бераг, каб тым дапамагчы сваім нашчадкам.

Значны сьлед спакінула Лукамля ў фальклёры. Таму спачатку навет не даеш веры, што ўсё-ж гэта яна й ёсьць, калі бачыш сучаснае сьціплае мястэчка, якое з прычыны зьменшаньня за тысячагодзьдзе памеру возера апынулася ў двух кілямэтрах ад яго. Аб далёкім мінулым тут нагадвае цяпер толькі замчышча. Яно знаходзіцца на правым беразе Лукамкі, узвышаючыся над ёй прастаспадным абрывам на 20 мэтраў, а зь іншых сваіх ня менш стромкіх бакоў на 15. Гэта тут было ядро гораду, які ўпяршыню згадваецца ў гісторыі пад 1078 годам, калі помсьцячыся славутаму Полацкаму князю Усяславу Чарадзею, яго спаліў Кіеўскі князь Уладзімер Манамах. Відаць, моцным быў тутэйшы замак, бо ў 1386 годзе брат Ягайлы Андрэй толькі пасьля працяглае аблогі ды й то з дапамогай крыжакоў авалодаў ім, але пасьля адыходу Немцаў лукамляне схапілі яго, як зрадніка і завезьлі да Ягайлы ў Кракаў. Тут у гэтым замку пазьней Сьвідрыгайла паланіў князя Міхала Гальшанскага, загадаўшы пасьля нялюдзкіх катаваньняў утапіць яго ў Віцебску ў Дзьвіне, а потым сам уцёк адсюль ад помсты Вітаўта.

А для вядомых у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага князёў Лукамскіх найбольш характэрны Іван, які адмыслова паехаў на службу да Маскоўскага князя Івана Трэйцяга, каб забіць яго за тое, што той пачаў мянаваць сябе „царом усяе Вялікае, Малае й Белае Русі", а пра Літву сьцьвярджаў, што яна нібы: „Здавён-даўна, ад нашых прабацькаў, нашая вотчына". І хоць Масква праз сваіх шпегаў даведалася аб намеры Івана Лукамскага і спаліла яго ў 1483-м годзе ў клетцы на беразе Масквыракі, але толькі аб самаахвярным патрыятызьме сьветчыць дагэтуль водбліск таго жудаснага вогнішча.

Не засталося цяпер і сьледу ад муроў колішняга магутнага Лукамльскага замку, аднак усё-ж цяжка пагадзіцца з Л. Аляксеевам, які ў сваёй манаграфіі „Полацкая Зямля" адзначае аб ім, быццам ужо ў 16-м стагодзьдзі ён ня існаваў, бо знаны Гваньіні аб ім ня прыгадвае ў сваім тагачасным апісаньні замкаў Літвы. Запраўды ў 1563 годзе Расейцы на чале з Багданам Сабуравам спалілі Лукамлю, паланіўшы шмат ейных жыхароў, але на Радзівілаўскай карце 1613 году, выдадзенае ў Амстэрдаме, яна адзначана, як ужо адноўлены й умацаваны горад.

Зьдзіўляе таксама аж празьмерны казённы патрыятызм савецкага журналістага У. Філіпенкі, які ў артыкуле „Лукамльская навіна" („Маладосьць", № 2, 1965 г.) піша, нібы: „Напалеон пацярпеў крах у баях пад Лукамляй". Адпавядае праўдзе, што ў часе адступленьня Вялікае Арміі Напалеона тут адбываліся мясцовага значаньня баі паміж расейскім генэралам Вітгенштэйнам і францускім маршалам Удзіно, але яны ня вытрымліваюць аніякага параўнаньня з наступнымі бітвамі пад Лейпцыгам і Ватэрлё.

Сьледам за паданьнямі й летапісамі, на Лукамльскае замчышча прыйшлі шукальнікі прыхаваных у зямлі гістарычных таямніцаў археолёгі. Яшчэ нястомны Аўдакім Раманаў дасьледваў знойдзеныя ў Лукамлі паблізу адзін ад аднаго два вялікія скарбы. Толькі залатых арабскіх дыргемаў Багдадзкага Халіфату налічвалася ў іх 94, апрача 159 заходняэўрапейскіх манэтаў 10-11 стагодзьдзяў. Такім чынам пацьвердзіліся і паданьні й летапісы, бо такія значныя скарбы тыповыя толькі для старадаўных, водных шляхоў, а закапаныя яны былі, відаць, перад нападам Уладзімера Манамаха на Лукамлю, калі, магчыма, загінуў і іхні гаспадар.

У 1939 годзе навуковая экспэдыцыя пад маім кіраўніцтвам узяла пад дзяржаўную ахову Лукамльскае замчышча, як і 5 вялікіх, з аднаго каменю кажны вычасанага, надмагільных крыжоў, вядомых у народзе пад назвай жальнікаў. У 1956 годзе Л. Аляксееў адкапаў у Лукамлі фрагмэнты ляпное керамікі, але найбольш тут зроблена архэалёгам Г. Штыхавам. Ім знойдзены наканечнікі стрэлаў, зялезныя шпоры, ключы, прасьліцы, керамічныя вырабы, шкляныя бранзалеты, льлячкі для плаўкі мэталяў і мноства манэтаў. А ўсё гэтае разам узятае сьветчыла толькі аб багацьці старажытнае Лукамлі.

За апошнія сем год на беразе Лукамльскага возера, паблізу ад старае Лукамлі, вырас малады горад энэргетыкаў Новалукамль, шырокія вуліцы якога складаюцца пераважна з 5-ціпавярховых гмахаў. Ягоным цэнтрам зьяўляецца магутная цеплавая электрастанцыя, што належыць да найбольшых гэтага тыпу ў Эўропе. Ейны галоўны корпус узьнімаецца да вышыні 20-ціпавярховага небаскробу, а над ім пануе 250-цімэтравы комін, што ўсяго толькі на 50 мэтраў ніжэйшы за вядомую Эйфэлеву вежу ў Парыжы.

Аднак разам з тым мімаволі выклікае засьцярогу заўвага А. Сафроненкі ў артыкуле „Энэргія Новалукамля" („Беларус", № 3 за 1971 год):

„Шуміць, хвалюецца Лукамльскае возера. Зь яго ДРЭС чэрпае ваду для тэхналягічных установак" — калі далей згадаеш сьветчаньне Елены Баравік у ейнай кніжцы „Рыба — прамысловыя вазёры Беларусі" (Акадэмія навук Беларускае ССР. Менск. 1970 г.):

„Выцякала з Лукамльскага возера рэчка Лукамка. Улетку на Лукамцы стоку ня было. Такі факт ранейшыя дасьледчыкі не заўважвалі".

Затое я цяпер дазволю сабе запытацца ў кагадзе прыгаданых аўтараў: — ці не таму хвалюецца роднае Лукамльскае возера, асуджанае электрагігантам сучаснае цывілізацыі Новалукамлем на паступовую пагібель, што яно ўсё-ж вычарпальнае ў параўнаньні зь нявычарпальнай нацыянальнай культурай беларускага народу, адным з унікальных помнікаў якое зьяўляецца старая й слаўная Лукамля?

**Юрка Віцьбіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

## „КУПАЛАВА СЬВЯТА, ЯКІМ ЯМУ БЫЦЬ?"

Пад гэткім загалоўкам у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 31 сакавіка сёлета надрукаваны адкрыты ліст ведамых беларускіх паэтаў **Анатоля Вярцінскага, Міколы Аўрамчыка, Ніла Гілевіча, Уладзімера Паўлава, Янкі Сіпакова**, а таксама літаратурнага крытыка **Уладзімера Юрэвіча.** Ліст гэты ніжэй перадрукоўваем поўнасьцяй.

⁂

„Сярод урачыстасьцяў, якімі будзе адзначана 90-годзьдзе з дня нараджэньня народнага песьняра Беларусі Янкі Купалы, павінна быць і сьвята паэзіі. Мяркуецца, што яно будзе праведзенае на радзіме паэты ў Вязынцы. І назва яму, відавочна — Купалаўскае.

Пакульшто ў нас не праводзіліся такія сьвяты. Значыць, ад таго, як пройдзе першае Купалава сьвята, будзе залежыць і лёс іншых паэтычных сьвят: коласаўскіх, багдановічаўскіх... Зямля Беларусі багатая на імёны, што, як зоркі першай вялічыні, сьвецяць высока і далёка. Чаму-ж яна, зямля наша, павінна быць бедная на сьвяты?

Якім-бы хацелася бачыць яго, Купалава сьвята?

Хацелася-б, каб сьвята гэтае было ў нядзелю, і каб гэта стала традыцыяй — другая нядзеля ліпеня аддаецца Купалаўскаму сьвяту паэзіі ў Вязынцы, як першая чэрвеня — Пушкінскаму сьвяту паэзіі ў Міхайлаўскім. Людзі будуць чакаць гэтай нядзелі кожны год, так, як некалі чакалі кірмашу, дзе было весела, дзе былі сустрэчы даўніх знаёмых і тых, хто знаёміўся ўпяршыню. Дзе ўсё было па-народнаму звыкла й проста і ў меру ўрачыста.

І цяпер варта ўсё прадумаць да драбніцы, каб гэтае сьвята не „зафіцыяліць" доўгімі абавязковымі й неабавязковымі прамовамі, аднастайным чытаньнем і засцэнараным канцэртам. Сьвята тады атрымаецца сапраўды народным, вартым памяці народнага песьняра, калі ў ім будзе разумная імправізацыя, пачынаючы ад вядучага, здольнага прадставіць кожнага, хто будзе выступаць, арыгінальна, шчыра, як за бяседным сталом.

На сьвята людзі будуць ехаць з усіх куткоў Беларусі. І нам думаецца, што „пад'езды" да Вязынкі варта было-б загадзя аддаць у распараджэньне вучняў-старшаклясьнікаў тутэйшых мясцін. У яркіх нацыянальных уборах з галінкамі маю ці палявымі кветкамі ў руках яны будуць вітаць гасьцей на Купалавай зямлі, паказваць і расказваць, як даехаць ці дайсьці да Вязынкі.

Трэба, каб усё багацьце народных мэлёдыяў — песьняў, танцаў, прыпевак — гучэла ў гэты дзень у ваколіцах Вязынкі.

Вядучы сьвята зьвернецца з пранікнёным словам пра Купалу да ўсіх, хто зьбярэцца на пагорку перад памостам-эстрадай. Так нам уяўляецца пачатак.

А затым адзін за адным будуць падыходзіць да мікрафону паэты— тутэйшыя і госьці. Хто шчырым прывітаньнем, хто сваім вершам, хто перакладам Купалы на родную мову возьме ўдзел у спаборніцтве слова.

Пасьля перапынку — эстрада ў руках удзельнікаў мастацкай самадзейнасьці. Прагучаць Купалавы вершы ў выкананьні пераможцаў рэспубліканскага конкурсу і юных чытальнікаў, сцэны зь яго п'ес, песьні ў харавым, сольным выкананьні, народныя мэлёдыі на розных інструмэнтах.

У праграме сьвята належнае месца павінны заняць песьні і танцы народаў СССР, у прыватнасьці і тыя, якія любіў Купала. Можна будзе ў кніжных кіёсках набыць новы „Дзень паэзіі", творы Янкі Купалы і іншыя кнігі.

Купалава сьвята паэзіі павінна стаць сапраўды народным, карнавальным, кірмашовым — разнастайным і багатым зьместам. І калі яно такім будзе, цікавым і памятным, тады яно пакладзе пачатак добрай традыцыі ў нашым культурным жыцьці".

## „ЗАБАЎЛЯЛЬНЫЯ АДНАДЗЁНКІ" Й П'ЕСЫ „СТАРЭЙШАГА БРАТА" ЗАМІЖ БЕЛАРУСКАГА РЭПЭРТУАРУ

„Для вызначэньня свайго творчага абліччя ў народных тэатраў ёсьць шмат шляхоў. Гэта дасягаецца і жанрам, і тэмай, а галоўнае — праўдзівасьцю і глыбінёй раскрыцьця зьместу жыцьця й побыту тых людзей, сярод якіх працуе народны тэатр, ад імя якіх ён выступае перад грамадзкасьцю. Вось гэтага больш за ўсё і не хапае многім нашым самадзейным калектывам.

На жаль, як гэта ні дзіўна, **беларуская п'еса — часьцей за ўсё госьць, а не гаспадар на самадзейнай сцэне** (падчыркнута намі — Рэд.). Больш за ўсё яна выбіраецца да агляду, фэстывалю, а ў штодзённай творчай дзейнасьці народны тэатр жыве іншым рэпэртуарам. Добра, калі гэта дасканалыя савецкія творы або клясыка, а часьцей за ўсё — забаўляльныя аднадзёнкі, пасрэдныя камэдыйныя п'ескі. На іх дыскваліфікуецца мастацкі густ аматараў, траціцца сьвежасьць таленту і народнай непаўторнасьці. Як бывае крыўдна, калі самадзейны артысты намагаецца празь сілу нешта выразіць на далёкім для яго матарыяле ў той час, калі ён можа быць непаўторным у раскрыцьці таго, што яму бліжэй. Вялікая віна ў гэтым мастацкіх кіраўнікоў, якія часам маюць вельмі цьмянае ўяўленьне пра здабыткі беларускай драматургіі.

Тут ня ставіцца мэта, каб усе народныя тэатры абавязкова засярэджвалі ўвагу толькі на беларускім рэпэртуары. Гэта было-б неразумна. Але нельга мірыцца і з такім становішчам, што ў **нас няма чыста беларускага самадзейнага тэатру** (падчыркнута намі — Рэд.). Якраз такімі маглі-б быць народныя тэатры Ашмяны, Цімкавічаў, Пухавічаў, Слуцку, Пастаў, Багушэўску, Браслава, Ліды і г. д. Ім больш за ўсё пад сілу актыўна прапагандаваць нацыянальную сцэнічную культуру.

Некаторым прыкладам можа служыць Мазырскі народны тэатр. Яго мастацкі кіраўнік М. Колас ня цурацца ні драматычных твораў савецкіх пісьменьнікаў іншых рэспублік, ні клясыкі, але на першым пляне ў калектыве беларускія творы, якія расказваюць пра Палесьсе, пра мясцовых людзей, іх побыт, думкі, мары. Сваяасаблівую палескую хроніку мазырскія артыстыя пачалі з „Раськіданага гнязда" Я. Купалы, затым прадоўжылі яе „Партызанамі" К. Крапівы, яшчэ больш уражліва замацавалі ў пастаноўцы „Людзі на балоце" І. Мележа. Зьбіраюцца яны прадоўжыць гэту гаворку і ў іншых спэктаклях на аснове нацыянальнай драматургіі". (С. Пятровіч, кандыдат мастацтвазнаўства, „Зьвязда", 22 сакавіка 1972).

## ЗЫРКІ ПРЫКЛАД НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ

„Успамінаю, як два гады назад, калі мы рабілі замалёўкі ля Якушоўкі (месца дзяцінства Кастуся Каліноўскага — Рэд.), да нас падышла пажылая кабета. Даведаўшыся аб нашым намеры стварыць музэй яе земляка, разгаварылася:

— Летам да нас прыяжджаюць турыстыя з усёй Беларусі, а часам і зь Літвы, каб паглядзець радзіму Кастуся Каліноўскага. Прыедуць, пасядзяць на гэтым узгорку, дзе раней была сядзіба Каліноўскага, і едуць назад. Крыўдна!...

...Ёсьць музэі А. Суворава — у Кобрыне, П. Багратіёна — у Ваўкавыску... А. Міцкевіча — у Навагрудку. Але пакуль што няма музэю Кастуся Каліноўскага. А ён павінен быць!" (Д. Маслаў, мастак. „Літаратура і Мастацтва", 24 сакавіка 1972).

## „КАРАЛЕЎНА БЕЛАРУСЬ" У БРАДФАРДЗЕ

Звычаем мінулых гадоў, сёлета таксама ў Брадфардзе (Ангельшчына) была выбраная „Каралеўна Беларусь" 1972 году, якая будзе рэпрэзэнтаваць Беларусаў у Камітэце Паняволеных Народаў і прымаць удзел у выбарах „Каралевы Паняволеных Народаў". Сёлета прысутныя на сьвяткаваньні 54-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка „Каралеўнай Беларусь" выбралі сп-чну Гэлену Калбаса, 16-цігадовую дачку сп. Янкі Калбасы.

На прыняцьці, якое зладзілі Сп-ва Хведар і Марыя Лемяшонкі, прысутныя міла правялі вечар і падзякавалі Управе Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік" за прыхільны ўдзел як у ладжаньні сьвяткаваньня ўгодкаў 25 Сакавіка, гэтак і ў выбарах „Каралеўны Беларусь".

Варта дадаць да справаздачы, надрукаванай у папярэднім нумары „Беларуса", што ў дзень 25 сакавіка пры Гарадзкой Управе Брадфарду, як і ў гэты мінулыя гады, развіваўся беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, напамінаючы пра Дзень Незалежнасьці Беларусі.

У нядзелю 26 сакавіка адбылася з нагоды нацыянальных угодкаў урачыстая Божая Служба, якую адслужыў настаяцель БАПЦарквы прат. а. Янка Абабурка ў царкве сьв. Паўла ў Брадфардзе.

**Янка Крушына**

*РЭХА САКАВІКА*

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ



**Падпісаньне Праклямацыі і ўручэньне Губарнатару падарунку. Сядзяць зьлева направа: Г. Войтанка, Губарнатар В. Кагіл, І. Азарка; стаяць: Т. Супрун, Г. Лог, Ю. Азарка, Р. Войтанка, Г. Супрун, Г. Войтанка, М. Войтанка.**

Сёлетнае сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі мела трохі адменны характар ад сьвяткаваньняў, ладжаных у Нью Бранcьвіку мінулымі гадамі. З прычыны каталіцкіх, а тады праваслаўных Вялікодных Сьвятаў папросту ня было вольнай нядзелі дзеля наладжаньня ўрачыстага сходу. У сувязі з гэтым Управа мясцовага Аддзелу БАЗА ў цесным супрацоўніцтве з Управамі Жаноцкае Сэкцыі, Царкоўнае Рады й Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі паклалі галоўны націск на рэпрэзэнтацыю навонкі.

І так дэлегацыя, зложаная з прадстаўнікоў згаданых арганізацыяў, наведала Губарнатара штату Нью Джэрзі Вільяма Кагіла дзеля атрыманьня Праклямацыі пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Беларускім Днём штату. Праклямацыя была ў прысутнасьці дэлегацыі падпісаная Губарнатарам і ўручаная ёй у вельмі ўрачыстых абставінах. У знак удзячнасьці дэлегацыяй быў уручаны Губарнатару падарунак — альбом памастацку вышыты беларускім узорам з адпаведнай дэдыкацыяй і ўклееный на першай бачыне фатаграфіяй з мамэнту леташняга падпісаньня Праклямацыі.

Амаль усе ўдзельнікі дэлегацыі былі апранутыя ў беларускую народную вопратку, што зрабіла прыемнае ўражаньне на шматлікую публіку, прысутную ў гэным часе ў будынку Губарнатара.

У пятніцу 25 сакавіка беларуская дэлегацыя была запрошаная ў мясцовую ратушу Бурмістрам гораду Нью Бранcьвік сп-няй Патрышай Шыен. Урачыстасьць пачалася наранiцы. Спадарыня Бурмістр із сходаў ратушы ўрачыста прачытала Праклямацыю пра абвешчаньне Дня Беларусі ў горадзе Нью Бранcьвік. Тады яна выйшла на вуліцу і ў асысьце старшыні мясцовага Аддзелу БАЗА Тамаша Супруна й старшыні Царкоўнае Рады Мікалая Войтанкі падняла на шчоглу перад ратушай беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Наапошку яна прамовіла да ўдзельнікаў дэлегацыі, жадаючы беларускаму народу хуткага зьдзяйсьненьня ідэі незалежнасьці. На заканчэньне дэлегацыя ўручыла сп-ні Бурмістру, дарэчы, шчырай прыяцельцы Беларусаў, гэткі-ж альбом, як і Губарнатару штату. У мясцовай газэце „Дэйлі Гоўм Ньюс" была зьмешчаная зацемка з фатаграфіяй, калі Бурмістр падымала беларускі сьцяг.

У нядзелю 2 красавіка з нагоды нацыянальных угодкаў а. Васіль Кендыш адслужыў Малебен за Беларусь і беларускі народ ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. Ганаровую варту пры сьцягох трымалі сябры мясцовага Аддзелу БАЗА.

Стараньнямі Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў суседнім горадзе Саўт Рывэр быў таксама падняты беларускі сьцяг перад ратушай гораду.

**В. Н.**

### ПАДЗЯКА

Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі складае на гэтым месцы сваю шчырую падзяку сп-ні Юлі Андрусышынай зь Нью Ёрку за цудоўнае й бязінтэрэсоўнае выкананьне альбомаў, што былі ўжытыя ў якасьці падарункаў Губарнатару штату Нью Джэрзі й Бурмістру гораду Нью Бранcьвік.

## КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

30 студзеня, 1972, на 524 Ст. Клярэнс Авэню ў Таронце адбылося паседжаньне Рады ККБК. Факт, што ў нарадах Рады ККБК брала чынны ўдзел шэсьць прадстаўнікоў Саюзу Беларускае Моладзі Канады, міжвольна наводзіць на ўспаміны й рэфлексіі — на гісторыю Каардынацыйнага Камітэту. А ККБК мае ўжо за сабою ладную традыцыю й гісторыю.

Як архіўныя сьляды паказваюць, ужо ў 1958 г. „Супольны Камітэт Сьвяткаваньня", што складаўся з прадстаўнікоў ЗБК і БНА, ладзіў супольнае сьвяткаваньне 38-е гадавіны Слуцкага Паўстаньня. Супольна адзначаецца абедзьвюма арганізацыямі й 39-я гадавіна Слуцкага Паўстаньня ў 1959 годзе. У 1960 г. на запросінах на Акадэміо, прысьвечаную 43-ім угодкам Абвешчаньня Незалежнасьці БНР, фігуруе назоў „Беларускі Каардынацыйны Камітэт", што рэпрэзэнтуе ізноў БНА і ЗБК. Але БКК ня быў сталай арганізацыяй і ў 1962 г. абедзьве арганізацыі адзначаюць угодкі 25 Сакавіка асобна. Ад 1963 да 1965 БКК ладзіць супольныя сьвяткаваньні 25 Сакавіка, а ў 1963 адбылося й супольнае адзначэньне сотае гадавіны Паўстаньня Кастуся Каліноўскага.

1966 быў годам зваротным. 16 студзеня, 1966, на паседжаньні прадстаўнікоў ЗБК і БНА былі прыняты **Статут Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.** Гэтак паўстала сталая ўжо арганізацыя, мэтай якое, як кажа першы з трох пунктаў „Мэтаў", „Каардынацыя працы беларускіх арганізацыяў у Канадзе", а першы зь сямёх пунктаў „Заданьняў" кажа, што да яго належыць „Вонкавая рэпрэзэнтацыя ў канадзкіх дзяржаўных і грамадзкіх установах". 4-ты пункт кажа — „Ладжаньне нацыянальных сьвяткаваньняў і іншых беларускіх імпрэзаў" і 7-мы пункт — „Апека над беларускаю моладзьдзю й нацыянальнае ўзгадаваньне яе".

А што можа быць лепшым прыкладам нацыянальнага ўзгадаваньня, як паказаць на справе, хоць-бы супольным сьвяткаваньнем 25 Сакавіка, што ёсьць такія нацыянальныя сьвятасьці, перад каторымі карацца ўсякія груповыя й асабістыя непаладкі й нязгоды?! Які можа быць лепшы прыклад для нашае моладзі, як паказаць ёй, што старэйшае грамадзтва нагэтулькі дасьпелае грамадзтва й нацыянальна, нагэтулькі яму дарагая беларуская справа, што яе ставіць вышэй групавых нязгодаў і ў вагульна-беларускіх справах, як на 25 Сакавіка, дружна выходзіць „шчыльнымі радамі"?!

У Статуце ККБК гэтаксама сказана, што „Закладчыкамі ККБК і першымі яго сябрамі зьяўляюцца: ЗБК, БНА і Беларуская Самапомач у Ашаве". Гэтак было ў 1966 годзе. А летась на паседжаньні Рады ККБК 14 лютага, 1971, паступілі дзьве вусныя заявы аб уступленьне ў сябры ККБК: Саюзу Беларускае Моладзі Канады й Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе. Сакратар прачытала Статут ККБК і дзьве новыя арганізацыі былі прынятыя ў ягоныя рады. І гэтак ККБК, папоўнены маладымі сіламі СБМК і інтэлектамі БІНіМуК, прарабіў у 1971 годзе не малую работу.

Апрача ўрачыстасьцяў зьвязаных з 53-ай гадавінай Абвешчаньня Незалежнасьці БНР, якія абымалі Праклямацыю Мэра Таронта, што абвяшчала чацьвер, 25 сакавіка, 1971, „Беларускім Днём", узьняцьцем Беларускага Нацыянальнага Сьцягу ля Ратушы Таронта й Урачысты Сход беларускага грамадзтва Канады й гасьцей з ЗША, ККБК правёў „кампанію" перад ЦЭНЗУСАМ КАНАДЫ 71. „Кампанія" гэтая, ці проста падрыхтоўка да перапісу насельніцтва Канады палягала перш за ўсё на перапісцы з Дырэктарам Цэнзусу. Перапіска мела на мэце паляпшэньне статусу Беларусаў пры перапісе насельніцтва Канады. Паляпшэньня, бо дагэтуль гэты статус быў да таго няспрыяльны, што Беларусаў, калі толькі зь іх боку ня было актыўнага пратэсту, упісвалі ў рубрыкі Палякаў, Расейцаў ці Украінцаў. Апрача ліставаньня з Дырэктарам Цэнзусу, ККБК выдаў друкам да Канадыйцаў беларускага паходжаньня Камунікат у беларускай і ангельскай мовах. Камунікат меў на мэце паясьніць, як выпаўніць апытальнік Цэнзусу й як правільна падаваць сваё беларускае паходжаньне. Камунікат быў шырака разасланы ў Канадзе.

На парадку дня паседжаньня Рады ККБК, 30 студзеня, 1972, былі пастаўленыя асноўныя дзьве справы: 1. Сьвяткаваньне 54-е гадавіны 25 Сакавіка й 2. Справа фондаў, якія канадзкі Фэдэральны Урад прызначае для разьвіцьця культураў паасобных этнічных групаў Канады. Стварэньне гэтых фондаў — гэта першы крок правядзеньня ў жыцьцё нядаўна абвешчанай Прэм'ерам Трудо гэтак званай палітыкі „шматкультурнасьці" Канады. На гэтую мэту Федэральны Урад вызначыў да сакавіка 1973 г. панад мільён даляраў. Стыпэндыю можа атрымаць кажная арганізацыя, ці група, якая прадставіць свой праект працы, які будзе адказваць палітыцы „шматкультурнасьці", а прапануючая праект арганізацыя выкажацца дзейнасьцю й жыцьцяздольнасьцю. Перад ККБК стаіць заданьне прадпрыняць адпаведныя праекты й патрапіць скарыстаць з права на атрыманьне дзяржаўных субсыдыяў на разьвіцьцё свае беларускае нацыянальнае культуры на груньце Канады.

У дыскусіях над гэтай так важнай праблемай усё на першы плян выходзілі справы моладзі, яе дзейнасьці ў кірунку захаваньня й разьвіцьця беларускае культуры на канадзкай глебе. А так, як галоўным „вэгікэл", як Канадыйцы кажуць, у разьвіцьці культуры ёсьць мова, гэтую беларускую мову нашае пакаленьне сваёй моладзі ў спадчыне пакінуць мусіць. У спадчыне пакінуць мусіць і нацыянальную сьведамасьць, каб нашая моладзь у шматкультурнай Канадзе ведала свае карэньні, свой „бэкграўнд", каб ёй, як бяздомным сіротам, ня прышлося шукаць прыпынішча ў чужых. Гэта абавязак бацькоў, беларускіх арганізацыяў, абавязак Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

(Інфармацыі аб дзяржаўных фондах узяты з „Канэдыен Сін" за 4 лютага, 1972.).

**Сакратар ККБК**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Цяпер, калі савецкі друк прысьвячае шмат увагі пытаньню г. зв. „беларускага буржуазнага нацыяналізму",** цікавае цьверджаньне знаходзім у выдадзенай у Маскве паангельску (1971 г., выдавецтва „Прагрэс") калектыўнай працы „Кароткая гісторыя Савецкага грамадзтва" пад рэд. Ю. Палякова. Кніга, апісваючы першыя паваенныя гады, кажа (бб. 30. -308): „Савецкаму Інфармацыйнаму Бюро давялося йшчэ выдаваць колькі ваенных камунікатаў. Банды нацыяналістычных зраднікаў усё йшчэ дзейнічалі ў некаторых частках балтыцкіх рэспублікаў, на Заходняй Украіне й **Заходняй Беларусі**".

**Паваенная дзейнасьць БНР-аўскіх партызанаў (Янкі Філістовіча й інш.)** апісваецца ў артыкуле кіраўніка савецкае разьведкі на Беларусі Дзьмітра Сьмірнова п. заг. „Па воўчых сьцежках", што надрукаваны ў студзенскім сёлетнім нумары расейскамоўнага часапісу „Неман", органу Саюзу пісьменьнікаў БССР (№ 1, 1972, бб. 101-129). Сьмірноў цытуе, між іншага, з Філістовічага дзёньніка: „Раніцой разграмілі варожую тыпаграфію. Стварылі сваю партызанскую... Наагул апэрацыя добра ўдалася. Ніхто ня бачыў. Кажуць, загарэлася ад папіросы".

**Рэха савецкае рэакцыі на публіцыстыкучную дзейнасьць Юркі Віцьбіча** (на ягоны нарыс „Хатынь—Катынь", што зьявіўся ў газэце „Беларус" № 170 ды ў іншых замежных органах друку) не абмежавалася „Голасам Радзімы" й „Радыястанцыяй ‚Савецкая Беларусь'". Прагучэла яно і ў бэсэсэраўскім „Вожыку" (тыраж 195 тыс. экз.). У № 23 „Вожыка" за сьнежань 1971 г. таксама зьявілася патуга Леаніда Прокшы на гумар — фэльетон „Сэрвіс па-амэрыканску" — спроба замуціць гітлераўскімі злачынствамі ў Хатыні ня менш жахлівыя бальшавіцкія злачынствы ў Катыні.

**Падпішчыкі беларускага англамоўнага навуковага выданьня лёнданскага „Журналу Беларусаведы"** (The Journal of Byelorussian Studies) дасталі нядаўна новую кнігу „Журналу" — том 2, нр. 3. У ёй надрукаваныя: артыкул выкладчыка параўнальнае славянскае філялёгіі Лёнданскага ў-ту Лімінга пра моўныя й стылістычныя элемэнты паэмы „Александрыя" Васіля Мянжынскага канца 17-га ст.; артыкул выкладчыка расейскае мовы й літаратуры Лёнданскага ўнівэрсытэту (ён-жа рэдактар „Журналу") Арнольда Макміліна пра беларускую літаратуру 19-га ст. ды артыкул выкладчыка Квінсаўскага Каледжу ў Нью Ёрку Янкі Запрудніка пра змаганьне за аўтаномію Беларусі ў першай Дзяржаўнай Думе Расеі ў 1906 годзе.

Як і ў папярэдніх нумарох „Журналу", у апошнім выданьні — багаты аддзел рэцэнзіяў на беларускія савецкія й замежныя выданьні ды „Беларуская Хроніка" — агляд галоўных культурных падзеяў у БССР і за межамі Беларусі.

**Польская газэта „Вядомосьці"** (№ 1354 за 12. III. 72), што выходзіць у Лёндане, зьмясьціла водгук Часлава Есьмана на англамоўны „Журнал Беларусаведы", што выдаецца ў Лёндане Англа-Беларускім Таварыствам. Ч. Есьман вельмі прыхільна ацэньвае часапіс, адзначаючы, што гэта больш, чымся дасканальна апрацаваныя гістарычныя досьледы; часапіс, кажа ён, заступае ўнівэрсытэцкія выклады.

**Пераклады вершаў Я. Купалы ў украінскую мову, зробленыя прыяцелям беларускае літаратуры Леанідам Палтавам,** зьмешчаныя ў часапісе Супалкі Ўкраінскае Моладзі „Крилаті" (№ 2 за люты 1972 г.). Часапіс выходзіць у Бруксэлі ў Бэльгіі й абслугоўвае 12 тыс. сяброў арганізацыі. Леанід Палтава напісаў да сваіх перакладаў таксама інфармацыйную нататку пра Янку Купалу й ягонае значэньне ў беларускім адраджэньні.

**Вялікодны нумар выдаванага ў Нью Ёрку рэлігійна-грамадзкага часапісу праваслаўных Беларусаў „Голас Царквы"** (№ 35, красавік 1972) зьмяшчае: арт. а. Васіля Кендыша „Важныя гадавіны ў гісторыі БАПЦ", арт. М-ча (зь ілюстрацыямі) „Сьвятая Афрасіньня-Прадслава", „Урачыстасьць дня перамогі праваслаўя ў Кліўленьдзе", вершы Я. Купалы й Я. Коласа, рэлігійную хроніку ды інш.

**Вышаў з друку № 1 (129) выдаванага ў Лёндане часапісу „Божым Шляхам"** (за студзень-люты 1972). У нумары: „25-годзьдзе Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі"; матар'ялы пра сьв. пам. Дамініка Аніську; пра наведаньне пралатам П. Татарыновічам Амэрыкі; пра двух новых сьвятых у Праваслаўнай Царкве (сьв. Мікалая й сьв. Гэрмана); пра беларускія радыяперадачы ў Ватыканскім радыё; арт. „Ці быў Дастаеўскі Беларусам?"; хроніка; вершы. Часапіс ілюстраваны.

**Газэта „Нью Ёрк Таймс" (за 23. IV. 72) зьмясьціла артыкул пра рэлігійныя меншыні сучаснае Польшчы.** У Польшчы, падае газэта, на 33 міліёны жыхароў 90 працэнтаў рыма-каталікі. Наступная найбольшая група — праваслаўныя, 800 тысячаў якіх згуртаваныя ў Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве. На чале гэтае Царквы стаіць мітрапаліт Сымон Раманчук, галава Варшаўскае Праваслаўнае Мітраполіі. Дачыненьні між каталіцкай бальшынёй польскага жыхарства і прадстаўнікамі іншых рэлігіяў, як выглядае з паведамленьня газэты „НЁТ", не заўсёды гладкія. „Частка рэлігійнае варажнечы, — піша газэта, — паўстае на груньце традыцыйнага атаесамляньня не-каталікоў з замежнымі этнічнымі групамі. Газэта адзначае, што бальшыня праваслаўных Польшчы жыве ў усходніх правінцыях краю, і дадае: „шмат зь іх — беларускага або ўкраінскага паходжаньня, якія гутараць мешанінаю польскае й беларускае моваў".

**Рэцэнзія на анталёгію беларускае паэзіі, што выйшла летась у выдавецтве ЮНЭСКА,** зьмешчаная ў лёнданскім навуковым квартальніку „Славянскі й Усходне-Эўрапейскі Агляд" (The Slavonic and East European Review, vol. L, № 118, Jan. 72). Рэцэнзэнт, прафэсар Лёнданскага ў-ту Арнольд Макмілін, прыхільна ацэньвае выхад анталёгіі й адзначае, што кніга дае добрае агульнае ўяўленьне пра сучасную беларускую літаратуру. Нажаль, наадварот, дае анталёгія вельмі благое й тэндэнцыйнае ўяўленьне пра сучасную беларускую літартуру, і гэта, пры ўсіх іншых ейных высокіх каштоўнасьцях, галоўная ейная загана. Дарэчы, загана ня зь віны перакладніцы вершаў на ангельскую мову й камэнтаркі да кнігі ведамай ангельскай паэткі й шчырай энтузіясткі беларускай літаратуры Веры Рыч, а зь віны савецкага паэты Язэпа Семяжона, які, як згадваецца ў прадмове, прыслаў быў Веры Рыч рэкамандацыйны сьпіс паэтаў і іхных твораў для анталёгіі.

Пра гісторыю выхаду анталёгіі, спрэчкі вакол гэтага пытаньня й намаганьне савецкае дэлегацыі ў ЮНЭСКО канфіскаваць кнігу гл. арт. А. Бурзіча ў „Беларусе" № 179 (сакавік 1972 г.).

**Выйшла асобнай адбіткай бібліяграфія беларускае моваведы й літаратуры,** якую штогоду публікуе праф. Янка Садоўскі, выкладчык Квінскага ўнівэрсытэту ў канадзкім гор. Кінгстане, у „Сучасных Моваведных Досьледах", што выходзяць у Лёндане ў Вялікабрытаніі (The Year's Work in Modern Language Studies. Vol. 32. The Modern Humanities Research Association.).

## АКАДЭМІК Н. В. ТУРБІН

Беларускі біялёг акадэмік Н. В. Турбін стаўся новым прэзыдэнтам савецкага Ўсесаюзнага таварыства генэтыкаў і сэлекцыянераў, як падала газэта „Нью Ёрк Таймс" 12 лютага сёлета. Акадэмік Турбін, піша газэта, быў кампрамісовым кандыдатам у спрэчках між лысенкаўцамі (колішнімі сталінаўцамі) і прадстаўнікамі рэфармісцкае лібэральнае плыні у савецкай навуцы.

Акадэмік Турбін, паводля „Нью Ёрк Таймс", падтрымваў у 1948 годзе Лысенку, але пасьля павярнуўся супраць яго. Акадэмік Лысенка, як ведама, быў галоўным натхняльнікам партыйных пагляdaў у генэтыцы, паводля якіх набытыя арганізмам уласьцівасьці перадаюцца ў спадчыну, тымчасам як клясычная генэтыка гэтага не прызнае. Сталін і Лысенка намагаліся „навукова" давесьці, што набытыя ў выніку камуністычнае прапаганды ўласьцівасьці гэтак званага новага савецкага чалавека стануцца спадчыннымі ды будуць гэтак перадавацца новым пакаленьням.

Між іншага, пра абраньне акадэміка Турбіна за прэзыдэнта Ўсесаюзнага таварыства генэтыкаў і сэлекцыянераў паведаміла таксама газэта „Зьвязда" (8 лютага 1972 г.), зьмясьціўшы карэспандэнцыю ТАСС, але нічога не сказаўшы пра ягонае беларускае паходжаньне.

# КАТАСТРОФА НА МЕНСКІМ РАДЫЯЗАВОДЗЕ

На менскім радыязаводзе ў сакавіку сёлета здарылася вялікая аварыя, у якой загінула, паводля паведамленьняў заходных карэспандэнтаў з Масквы, найменш каля сотні чалавек. Але пра лік ахвяраў можна даведацца адно жывучы на Захадзе. У Савецкай Беларусі людзі афіцыйна гэтага ня ведаюць. Усё, што можна было даведацца із савецкага друку пра трагэдыю, гэта тое, што надрукавала менская „Зьвязда" 12 сакавіка:

„10 сакавіка, вечарам, у часе работы другой зьмены, у цэху выпуску футляраў менскага радыязаводу адбылася аварыя, у выніку якой ёсьць загінуўшыя й раненыя. Пацярпеўшыя дастаўленыя ў бальніцы, дзе ім аказаная неабходная мэдыцынская дапамога".

Пра тую самую аварыю было паведамлена асобна ад ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР ды асобна ад ЦК КПБ і Савету Міністраў БССР.

Партыйныя і ўрадовыя органы выказалі таксама „глыбокае спачуваньне й спагаду калектыву прадпрыемства, сем'ям і сваяком загінуўшых і пацярпеўшых рабочых і служачых".

Дзеля расьсьледваньня справы была створаная ўрадовая камісія на чале з кандыдатам у сябры Палітбюра сакратаром ЦК КПСС Д. Ф. Усьцінавам.

Коратка пра аварыю ў Менску паведаміла, у той-жа самы дзень, што й менская „Зьвязда", газэта „Нью Ёрк Таймс". Гэтая газэта 1 красавіка сёлета падала, што ў выбуху загінула каля 100 асобаў ды што, як паведаміла савецкае агенцтва ТАСС, выбух здарыўся ў выніку недагляду вэнтыляцыйнай сыстэмы радыязаводу. За агенцтвам ТАСС „Нью Ёрк Таймс" паведаміў таксама, што дырэктар заводу Захарэнка і дырэктар Інстытуту, што плянаваў вэнтыляцыйную сыстэму, звольненыя із займаных пасадаў.

Лёнданская газэта „Таймс" (28 сакавіка 1972) у сваім паведамленьні пра аварыю ў Менску, перафразавала ведамую ангельскую прыгаворку, што, „калі зь Менску няма навінаў, дык гэта благая навіна".

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРА ЭТНІЧНЫЯ ГРУПЫ

У сыботу 15 красавіка 1972 г. пры Штатным унівэрсытэце ў Джэрзі Сіты адбылася навуковая канфэрэнцыя прадстаўнікоў розных этнічных групаў. У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел каля 200 асобаў, і праца праходзіла ў чатырох сэкцыях: польскай, італьлянскай, грэцкай і беларускай. Асноўнай тэмай дыскусіяў у сэкцыях было дасьветчаньне дадзенае этнічнае групы ў амэрыканскім грамадзтве. Беларуская сэкцыя праводзіла працу пад кіраўніцтвам праф. Каледжу Джэрзі Сіты Пётры Раманоўскага, а дакладчыкам пра беларускую этнічную групу ў ЗША быў др. Вітаўт Кіпель.

Гаворачы пра беларускую этнічную групу ў ЗША, др. Кіпель адзначыў, што яна мала ведамая. Гэта вынік таго, што ў часе прыезду беларускіх іміграптаў у Амэрыку на пачатку дваццатага стагодзьдзя беларуская нацыянальнасьць царскім урадам не вызнавалася, і амэрыканскія эміграцыйныя ўлады рэгістравалі Беларусаў, як Расейцаў. Выходзіла, што амэрыканскія дзейнікі талеравалі й замацоўвалі новымі дакумэнтамі дыскрымінацыю беларускае нацыянальнасьці ў выніку дыскрымінацыі яе царскім рэжымам.

Частка рэфэрату др. В. Кіпеля насьвятляла палітычныя падзеі пасьля 1-ае Сусьветнае вайны, абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, уздым сьведамасьці Беларусаў на Бацькаўшчыне і ў Амэрыцы і арганізацыйную працу ў ЗША.

На заканчэньне др. Кіпель зрабіў выснову, што пакаленьне амэрыканскіх Беларусаў народжанае ў Амэрыцы — двумоўнае ці толькі англамоўнае — у сэньсе культурным адчувае сябе зьвязаным зь беларускай спадчынай і ўважае, што гэтая спадчына — „беларуская нітка ў культурным дыване амэрыканскага грамадзтва".

Пасьля рэфэрату адбылася жвавая дыскусія. Асабліва былі зацікаўленыя парушанымі праблемамі настаўнікі сярэдніх школаў, якіх вельмі шмат прысутнічала на канфэрэнцыі. Бадай аднагодна ўсе прыйшлі да высновы, што падручнікі сярэдніх школаў трэба неадкладна перагледзець і перапрацаваць, бо весткі, пададзеныя ў іх маладому пакаленьню, няправільныя.

На канфэрэнцыі ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі амэрыканскіх дзяржаўных установаў, між імі Дэпартаманту Адукацыі. Быў прысутны таксама й выступаў з прамовай др. Міхал Новак, Амэрыканец славацкага паходжаньня, аўтар колькіх працаў пра этнічныя групы Амэрыкі, сярод якіх апошняя кніжка „Уздым нерасейскамоўных этнічных групаў" выдадзеная ў 1972 годзе.

Канфэрэнцыя, арганізаваная Штатным каледжам Джэрзі Сіты, была прызначаная галоўна для навукоўцаў, якія працуюць у дасьледных інстытутах, а таксама для настаўнікаў, што выкладаюць амэрыканскую гісторыю.

Вёў канфэрэнцыю ейны арганізатар, выдатны навуковец, прафэсар гісторыі каледжу Джэрзі Сіты др. Тадэуш Грамада.

## ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ПАМЯТНІК БЕЛАРУСКІМ ГЕРОЯМ

Д-р Ул. Набагез — $ 100.00, Ф. Бартуль — 50.00, Я. Бруцкі—30.00, Д-р Я. Запруднік — 20.00, А. Евец — 20.00, А. Дарога — 20.00, А. Дарафейчык — 20.00, А. Койка — 20.00, А. Корбут — 10.00, К. Верабей — 10.00, П. Беляец — 10.0, С. Школяр — 10.00, Ст. Ліпскі — 10.00, Д-р Ул. Бакуновіч — 10.00, Ю. Мазура — 10.00, М. Пруські — 10.00, М. Нікан (Аўстралія)—11.00, М. Артон — 10.00, В. Пляскач — 10.00, Ф. Дайнека — 5.00, А. Асіповіч — 5.00, П. Ваякоўскі — 5.00, Д. Дашкевіч — 5.00, Я. Дзядовіч — 5.00, Я. Сокал — 5.00, Ул. Бычкоўскі — 5.00, С. Дубоўскі — 5.00, П. Орса — 5.00, А. Чарненка — 5.00, Я. М. — 5.00, С. Ляшчынская — 2.00.

Да гэтага часу на пабудову памятніка Беларускім Героям у Іст Брансьвік, Нью Джэрзі, сабрана — $1,572.00. Збор ахвяраў працягваецца. Усім ахвярадаўцам выказваецца шчырае беларускае дзякуй і заклікаецца іншых даць свае ахвяры. Мы ветліва просім тых суродзічаў, каму былі перасланыя падпісныя лісты на збор ахвяраў на памятнік Беларускім Героям, як найхутчэй адаслаць іх на адрыс, пададзены ў закліку.

## УКРАІНЦЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ

У нядзелю 26 сакавіка ў Брадфардзе (Ангельшчына) адбылася вялікая дэманстрацыя-пратэст паняволеных народаў супраць перасьледваньня камуністычным рэжымам на Ўкраіне й іншых нерасейскіх краёх інтэлектуалістых, пісьменьнікаў і наагул нацыянальна актыўнай інтэлігенцыі. Пратэстацыйны паход прайшоў цэнтральнымі вуліцамі гораду, пасьля чаго ў залі Ўкраінскага Грамадзкага Клюбу „Лыман" адбыўся пратэстацыйны мітынг з удзелам звыш 1.700 прысутных. За прэзыдыяльным сталом, побач із сябрамі Брытанскага Парляманту сп-няй Голл з Кіглэй і сп. Джонам Вілкінсонам ды прадстаўнікамі розных паняволеных народаў, займаў месца й прадстаўнік ад Беларусаў Янка Калбаса, віцэ-старшыня Камітэту Паняволеных Народаў. Сярод многіх прамоўцаў ад Беларусаў прамаўляў сп. Янка Калбаса. Пасьля заканчэньня мітынгу адбылося прыняцьцё для гасьцей.

**Янка Крушына**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

## ВІТАЕМ МАЛАДОГА ДАЦЭНТА!

Дайшла да нас радасная вестка, што сп. Сьвятаслаў Каранеўскі атрымаў становішча лектара архітэктуры на Сыднэйскім Унівэрсытэце ў Аўстраліі.

У тым-жа Сыднэі ён здабыў ступень бакалаўра архітэктуры з выдатнымі вынікамі — быў першым на сьпіску выпускнікоў! Далей паглыбіў свае веды ў ЗША, здабыўшы ступень мастэра архітэктуры. Два гады працаваў як архітэктар ў Філядэльфіі. Цяпер-жа чакаем яго тут у Сыднэі — ягоная сям'я, сваякі й прыяцелі. Віншуем Спадарства Каранеўскіх Жэню, Міколу й Марыльку із слаўным сынам і братам. Адначасна жадаем Сьвецік у сто год цікавай і карыснай працы на славу Бацькаўшчыны й пацеху Бацьком, здаровага адпачынку пасьля даўгой разлукі із сонцам аўстралійскім, і яшчэ: хуткага жанімства, бо гэткія кавалеры не павінны доўга бадзяцца „паражняком".

**Прыяцелі**

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

11 сакавіка сёлета ў аўдыторыі Раджэра Янга ў Лёс Анджэлесе адбыўся супольны абед з прамовамі, прысьвечанымі 15-ым угодкам дзейнасьці Акруговай Рады Нацыянальнасьцяў Рэспубліканскай Партыі й адзначэньню новавыбранай Рады. Ад Беларусаў у склад Рады выбраны інж. Язэп Арцюх. Раду твораць дэлегаты ад паасобных нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў. Старшынёю Рады выбраны Бэрнард Нурмсэн. Сярод прамоўцаў былі два ведамыя рэспубліканцы — гарадзкі радны Артур Снайдэр і журналісты Джордж Тод.

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (красавік) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Барсук | $ 20.00 |
| 2. В. і М. М. | 20.00 |
| 3. Ул. Акавіты (Аўстралія) | 14.16 |
| 4. М. Баяроўскі (Бірмінгам, Ангельшчына) | 12.95 |
| 5. К. М. | 12.00 |
| 6. А. Русак | 10.00 |

**Разам: $ 89.11**

**2. Сабрана сп. Б. Даніловічам сярод Беларусаў Нью Джэрзі:**

| | |
|---|---|
| 1. Б. Даніловіч заміж вянка на магілу сьв. пам. а. Віктара Войтанкі | $ 20.00 |
| 2. Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў за клішы | 20.00 |
| 3. БАЗА, Аддзел у Нью Джэрзі за клішы | 20.00 |
| 4. С. Гутырчык за клішэ й падпіска | 16.00 |
| 5. А. Дубяга | 10.00 |
| 6. П. Нядзьведзкі | 10.00 |
| 7. М. Войтанка | 10.00 |
| 8. П. Беляец | 10.00 |
| 9. Т. Супрун | 10.00 |
| 10. А. Галелюк | 10.00 |
| 11. І. Рагалевіч | 12.00 |
| 12. П. Орса | 10.00 |
| 13. Ч. Ханяўка | 10.00 |
| 14. Парахвія Жыровіцкае Божае Маці | 10.00 |
| 15. Э. Ясюк | 10.00 |
| 16. А. Койка | 10.00 |
| 17. Л. Кляйнбах | 6.00 |
| 18. К. Стрэш | 6.00 |
| 19. Н. М. | 6.00 |
| 20. М. Сільвановіч | 6.00 |
| 21. П. Швэд | 6.00 |
| 22. І. Люты | 6.00 |
| 23. Я. Кузьменка | 6.00 |
| 24. А. Асіповіч | 6.00 |
| 25. А. К. | 8.00 |
| 26. І.Ш. | 6.00 |
| 27. П. Талмачэвец | 6.00 |
| 28. А. Корбут | 6.00 |
| 29. Ф. Родзька | 6.00 |
| 30. Б. Шчорс | 6.00 |

**Разам: $ 284.00**

**3. Сабрана сп. А. Маркевічам сярод Беларусаў Канады:**

| | |
|---|---|
| 1. С. Шульга | $ 6.00 |
| 2. А. Высоцкі | 3.00 |

**Разам: $ 9.00**

**Усяго разам: $ 382.11**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**